## ПАХ ЗІМОВАГА ГРОМУ

Вясна, якая даўно мусіла наступіць, ніяк не прыходзіла. Ён стаяў на пагорку, на самым высокім пагорку гэтай зямлі. Дзе толькі самая вяршыня, схопленая ранкавым прымаразкам, была вызваленая ад снегу. Сонца, ледзь паказаўшыся, зноў засцілася хмарамі. Вецер амаль да зямлі згінаў вершаліны дрэваў, шпурляў сухім снежным шротам, нібы спрабуючы прабіць доўгую светлую, амаль срэбную ваўчыную поўсць. Ён стаяў нерухома. Здалёк здалося б, што гэта глыба белага мармуру. Воўк быў незвычайны, вялікі й белы. Ягоная галава была ўзнятая ўгору, працяглы й густы ваўчыны рык ляцеў у неба.

Над голым лесам грымеў гром. Гул ад яго здаваўся яшчэ больш моцным і гучным, бо лютавала зімовая навальніца. Рэдкія бліскавіцы ў нізкім свінцовым небе не асвятлялі, але асляплялі. Калі скрозь шэрыя хмары прабівалася сонца, здавалася, гэта яно кідае маланкі на зямлю.

Прымружаныя сінія вочы сузіралі неба. Пры кожным перуне ягоныя храпы рабіліся шырэйшымі, у ашчэранай пашчы бліскалі вялікія моцныя іклы. Ён зачаравана ўслухоўваўся ў грымоты, лавіў іхні пах, брыняў іхняй сілай. Ён мусіў адчуць неба. Ён ведаў: год, калі над голым лесам цяжка дыхае гром, будзе нялёгкім. Так было заўжды, так будзе й зараз.

Ніхто дакладна не скажа, скуль узялася гэтая набрыдзь. Усё адбылося раптоўна. Аднойчы на ўскрайку свайго Лесу яны ўбачылі вялізную жывую брудную пляму невядома каго. Напачатку тых прынялі за зграю бадзяжых сабак, але, пры вонкавым падабенстве, то былі зусім не сабакі. Можа быць, пацукі ці шакалы, невядома. Нешта нявызначанае,

зброднае, што выдавала на пацукоў. Іхні збой, манера рухацца, колер і, урэшце, вочы…

Не шчырыя сабачыя і не суворыя вочы ваўкоў. Быў у іхнім мітуслівым позірку адбітак хлусні й падступнасці. Пасля выпадковых сустрэчаў з імі заставалася трывалае пачуццё агіды, ад якога доўга не можна было пазбавіцца. Пазней, калі сустрэчы здараліся часцей, гэтае пачуццё ўжо не пакідала. Яно пазбаўляла спакою, несла няўлоўнае адчуванне трывогі й небяспекі. Прадчуванне заразы.

У іх не было мовы, яны карысталіся простым наборам словаў, якія нагадвалі каманды, падобныя на скавытанне. Іхнія словы былі зразумелыя, але ніхто з насельнікаў Лесу не здолеў бы размаўляць так, як яны, — нібы з косткаю ў горле. І яшчэ, яны ніколі не спявалі.

Яны былі розныя — высокія й малыя, тлустыя і як жэрдкі, калматыя й лысыя. Ён спрабаваў прыгледзецца да іх, здагадацца, хто яны? Але зрабіць гэта было немагчыма, бо… яны былі ніхто. Племя ніхто. Адно ён зразумеў для сябе дакладна: гэта ворагі. Яны жылі без закону.

Кроў іхняя мяшалася без аніякага парадку. Ім не дадзена было пачуццё сваёй крыві, свайго Лесу. Траплялiся сярод іх і пародныя, але іх дзеці ўжо не ведалі сваіх бацькоў. Ім ставілі таўро бязроднасці. Гэтае таўро было іх сімвалам, ад самае бруднае сукі да сіпатага важара.

Іх нараджалася й памірала безліч. Сукі шчаніліся, дзе заўгодна й калі заўгодна, не ведаючы, хто бацька іх дзяцей. Але бацька ва ўсёй гэтай хеўры быў адзін — высокі сіпаты кабель. Бывалі часы, калі ягонае скавытанне не спынялася днямі. Гэта служыла ім замiж песень. Вакол важары мітусіліся набліжаныя. Яны выконвалі любое ягонае пажаданне, наводзячы сваімі тупымі мордамі й бясколернымі вачыма жах на астатніх. Племя-ніхто жыло без закону, племя-ніхто жыло без надзеі.

За час свайго бадзяжнага існавання яны звыклі да сметнікаў, падлы й знямоглых. Яны не гідзіліся есці нават здохлых жабаў. Не шкадавалі яны і сваіх. Аднойчы ў шаленстве гэтае кубло раздзёрла на шматкі суку з адбіткам колішняе пароды. З віскатам, скавытаннем, брэхам, крывавымі пы-

рскамі. Такое паляванне страшыла іх і адначасна рабіла яшчэ больш бязлітаснымі. Яны шалелі ад крыві, але страх, неўсвядомлены страх працінаў іх цалкам, да кончыка хваста. Яны жылі без закону.

У лютыя маразы мінулай зімы падохла іх шмат. Здохлыя служылі харчам для мацнейшых. Бывала, за дахадзягаў прымаліся, не дачакаўшы смерці. Ягоныя шэрыя браты, пабачыўшы такое, міжволі пачыналі выць суворую песню поўні. Ён не выў. Ён ведаў: увесну прыйдзецца бараніць Лес. Адно трывожыла яго мацней за ўсё: каб паспеў падняцца вывадак, каб шчанюкі паспелі наліцца сілай да таго, як сіпаты пачне сваё скавытанне, да таго, як гэтая падступная збродная зграя збярэцца ў напад. Ён ведаў ступень небяспекі.

Хеўра, выцягнутая ў шырокую паласу, наплывае, як лава, вынішчаючы ўсё на сваім шляху. Некалі, як быў шчанюком, ён бачыў нешта падобнае — пацучынае нашэсце. Тады ад перажытага яго агарнулі страх і агіда. Цяпер страху не было, адно агіда. Яны не былі ваярамі, нават тыя, з тупымі мордамі й бясколернымі вачыма. Пры рэдкіх сустрэчах сам-насам ён бачыў падціснутыя хвасты й заўсёднае жаданне ўпасці на спіну. Ад гідоты ён прыходзіў у шал, яму ненавісныя былі іх рабскія бясколерныя вочы. Але адно ён ведаў дакладна, неўзабаве пачуўшы скавытанні сіпатага, іхняя брудная плынь хлыне ў Лес. Ён мусіў пераняць скавытанні. Ён усё ведаў і ад таго быў спакойны. Ён не пакіне Лесу. Вольны народ не кранецца з гэтай зямлі. Прыйдзе цяпло, і ён возьме сіпатага. Ён ведаў гэта. Ён возьме яго звычайна, як неаднойчы браў лася альбо дзіка. Ён дастане яго ў тры скачкі. Ён не схібіць. Гэта будзе канец існаванню племені-ніхто. Гэта закон для тых, хто жыве без закону. Але гэта будзе пасля, калі лес адзенецца ў лісце, калі рудое сонца кране сваім чырвоным промнем ягоную срэбную поўсць.

А пакуль, абсыпаны снежным пылам, ён стаіць на ўзгорку свайго Лесу і сузірае прымружанымі сінімі вачыма шэрае навальнічнае неба. Ён разумее яго. Ён адчувае пах грому.

*1996*

# КРЫЛЦЫ

Над лесам стаяла сцяна вады, якая, здавалася, была паўсюль. Цёмнае шэрае неба надзейна схавала сонца. За шэсць дзён сонца не выглянула ніводнага разу. Лес страціў свой колер, свае адценні. Ён таксама, як неба, стаў шэрым, аднолькавым. Ужо не можна было адрозніць клёна ад ясеня, ліпы ад бярозы, яліны ад сасны. Вільгаццю набрыняла ўсё навокал: дрэвы, зямля, паветра…

Усё пахавалася. Усе спрабавалі перачакаць неспадзяваную непагадзь. Але дождж не спыняўся. Неба выцякала на зямлю.

Вада ўсё прыбывала, і надышоў момант, калі маленькае лясное балотца пачало імкліва расці. Змяшаная з дажджом гнілая балотная вада, раней турбаваная толькі жабамі й балотным духам, рушыла за звычайныя межы балота. Гэты рух быў надзвычай рэзкі. Брудная плынь, не разбіраючы дарогі, падбірала на сваім шляху трэскі, апалае лісце, галінкі дрэваў; выдзірала з коранем лясныя кветкі, разнастайныя травінкі й расліны. Усё гэта, перамяшанае з брудам, круцілася, віравала, то знікала ў глыбіні, то паказвалася на паверхні.

Там, куды балота цягнула свае сінюшныя крывыя пальцы, не заставалася нічога чыстага. Ручаі і крыніцы ператвараліся ў брудныя калюгі. Цвёрдая лясная глеба раз'ядалася гэтай заразай і рабілася ліпкай і слізкай. Яна больш не магла ўбіраць у сябе гэтую чорную жыжу.

Лес адступаў. Дрэва за дрэвам, паляна за палянай, крыніца за крыніцай. Лес пакрысе ператвараўся ў балота. У ім пачаў валадарыць смуродны дух балотнага дна.

Лес задыхаўся ў мёртвых абдоймах дрыгвы.

Бяда напаткала ўсіх, смярдзючы чорны дух, што вялізнымі бурбалкамі выходзіў з самых глыбіняў багны, падымаў чорную балотную жыжу да самых пагоркаў, і яна, імкліва выпрастаўшы па лагчынах свае агідныя лапы, кідалася далей.

Мураш цягнуў трэску. Ён мусіў ратаваць свой мурашнік. Трэска была вялізная й цяжкая. Ён высільваўся так, што здавалася: яшчэ крыху — і разарвецца. Але ён цягнуў сваю трэску далей.

Слізкая глеба й дождж рабілі ягоную справу невыноснай.

Але ён цягнуў сваю трэску. Хвалі раз'юшанага балота каціліся побач, біліся аб глебу і асыпаліся мільёнамі мутных кропляў. Мурашнік апынаўся ў варожай аблозе. Пагорак, на якім ён стаяў, усё мацней сціскалі вялізныя балотныя кіпці. З аднаго боку вада падступіла амаль ушчыльную й пачала падмываць сцяну мурашынага замка.

Мурашы ўпарта змагаліся. На змену вымытаму кавалку сцяны клаліся новыя трэскі, хваёвыя голкі, галінкі, каменьчыкі, лісце.

Умацаваўшы сваю трэску, мураш кінуўся па іншую. Побач зладжана сноўдалі ягоныя браты. Мурашы баранілі свой дом.

Недзе там, у сутарэннях мурашынага замка, разам са сваёй вартай, ахоўваючы нашчадкаў, сядзеў мурашыны кароль. Кароль быў звычайны, з ганарлівай паставай, з каронай на галаве й крылцамі за спінай.

Мурашы, як добрапрыстойныя падданыя, гатовыя былі памерці за свайго караля. Яны ратавалі мурашнік, караля й нашчадкаў адчайна, зусім не шкадуючы сябе. Але… сілы былі няроўныя.

Падняўся вецер і яшчэ злей пагнаў хвалі бруднай балотнай жыжы на сцены мурашніка. Шэрагі мурашоў меншалі, ужо не адзін з іх быў знесены вірлівым патокам невядома куды, і наспеў час, калі падмытая сцяна мурашынага замка пад чарговым ударам балота абрынулася долу.

На імгненне ўсё сцішылася, адно было чуваць, як дрыжыць ад удару мурашыны дом.

Раптам на самай вершаліне скалечанага мурашніка мурашы ўбачылі свайго караля. Мурашы глядзелі на яго неадрыўна. З долу было не разабраць ягоных вачэй. Толькі постаць і цьмяны бляск кароны. Каралеўскія падданыя чакалі нейкага знаку свайго караля. Яны ўглядаліся ў вышыню, яны прагнулі каралеўскага знаку.

Кароль стаяў на вяршыні мурашніка, з гары яму было відаць, як сунецца на скалечаны мурашнік гнаная ветрам цяжкая чорная хваля.

На доле мурашы не бачылі пачвары, што падбіралася да іх дома, яны глядзелі на свайго караля й гатовыя былі за яго памерці. Яны чакалі каралеўскага знаку.

Раптам кароль узмахнуў сваімі каралеўскімі крылцамі, адарваўся ад мурашніка і, не азіраючыся, паляцеў.

Кароль ляцеў да суседняга мурашніка, дзе дрыгва не пагражала так востра й небяспечна, а з зямлі ў спіну яму роспачна глядзелі ягоныя падданыя.

— Кароль мусіць быць у бяспецы, — думаў кароль.

Яшчэ нейкі час па цьмянаму бляску кароны можна было бачыць каралеўскія абрысы, пакуль яны не зніклі пад дажджом у паўзмроку й шэрані.

Але раптам імклівы парыў ветру штурхнуў караля, закружыў яго ў пprасторы й сарваў каралеўскую карону з ягонай галавы.

Карона паляцела долу, туды, дзе пад сценамі мурашніка засталіся ягоныя падданыя.

Мурашы сцішана назіралі, як ляціць да іх карона іхняга караля, як яна ўдараецца аб зямлю і знікае ў цяню хвалі. Следам цяжкая лавіна бруднай вады цалкам накрыла мурашыны замак. Яна мусіла знесці, зруйнаваць яго дашчэнту, але чамусьці ён устаяў. Згубіў яшчэ кавалак сваёй сцяны, але ўтрымаўся.

Мурашы нават не заўважылі гэтага, бо глядзелі то на карону, то ў той бок, дзе растаў у шэрым небе іхні кароль.

Так скончыўся шосты дзень дажджу, але не скончыўся дождж.

З цемры напаўзала ўжо новая небяспека. Яна падпаўзала ціха й падступна.

Ударыла маланка, мурашынае здранцвенне змянілася мітуснёй. Мураш глядзеў на свой дом, дзе засталіся нашчадкі. Яны былі бездапаможныя. Іх трэба было бараніць. Схамянуўшыся, ён падхапіў цяжкую хваёвую голку і пацягнуў яе да разбураных сценаў мурашніка. Ён не бачыў, як за ім, пахапаўшы трэскі й галінкі, да сценаў пабеглі астатнія мурашы.

Маланка, раскалоўшы неба, ударыла ў стары клён, што жыў побач з мурашамі. Праз выбух і сполахі агню яны ўбачылі вялікую балотную пачвару, якая, нібы змяя, прагна цягнулася да іхняга дому. Яна была ўжо побач, так блізка, што мураш адчуў яе смуродны подых. Смешна, што маглі зрабіць маленькія мурашы супраць гэтай чорнай лавіны. Яны маглі толькі адно — не спалохацца.

Счапіўшыся паміж сабой, яны чакалі яе пад разбуранымі сценамі мурашніка. Яны бачылі яе звыродлівы твар і мутныя вочы. Яны моўчкі глядзелі ў гэтыя вочы. Наўпрост. Ва ўпор. У вялікіх сэрцах маленькіх мурашоў не было ані каліва страху.

Дрыгва паднялася над імі, вантробна рыкаючы й хлюпаючы. Мурашы, ахопленыя нейкай светлай ярасцю, упарта глядзелі ў твар пачвары. Ніхто не адвёў позірку, не міргнуў, не заплюшчыў вочы.

Іх крохкія, счэпленыя паміж сабой цельцы ў гэты момант былі мацнейшыя за сцены іхняга мурашніка. Яны адчувалі гэта, і… пачвара не вытрымала. Яе мутныя зрэнкі хіснуліся ў бок, пасля ў іншы.

Калі ж, яшчэ больш надзьмуўшыся, яна пасунулася далей, зверху проста на яе звалілася палаючая галіна старога клёна. Чорная гадзіна зашыпела ад злосці й болю,

шукаючы выйсця, кінулася з боку ў бок і з віскам папаўзла назад.

Астатак ночы дождж то сціхаў, то мацнеў. Вецер, які гойсаў навокал, шкуматаў шэрыя хмары. Апаленая маланкай цяжкая кляновая галіна надзейна ахоўвала мурашнік, разбіваючы сваім магутным целам балотныя хвалі.

Мурашы зацята мацавалі свой дом.

Пад самы ранак скрозь разадраныя ветрам хмары на стомлены лес глянула першая за шэсць дзён зорка. Уранку сёмага дня на небе не было ніводнае аблачыны. Сонца сваім цяплом сагравала лес, які пад яркімі промнямі хутка аднаўляў шматколернасць. Балота імкліва ўцякала прэч. На сваё месца. Аб ім нагадвалі толькі шэрыя шнары, сляды ўчэпістых балотных лап на абшарах лесу. Усё прыходзіла да парадку.

Мурашыны кароль без кароны лётаў па іншых мурашніках, але нідзе яго не прымалі за сапраўднага караля.

Па-першае, паўсюль былі свае каралі, па-другое, паўсюль яны былі з каронай.

Каму патрэбныя не свае каралі, ды яшчэ без кароны?

Так ён лётаў з мурашніка на мурашнік, паўсюль даводзячы, што ён кароль, да тае пары, пакуль на яго папросту не сталі зважаць. Але ён перастаў зважаць, што на яго не зважаюць, і ўсё лётаў і лётаў. Даводзіў і даводзіў…

Аднойчы, прачнуўшыся, ён звыкла збіраўся ўзняцца ў паветра, але… але ўзнімацца не было чым. Ягоныя крылцы адпалі й, скурчаныя, ляжалі на зямлі. Калі ж ён дакрануўся да іх, яны імгненна рассыпаліся, пераўтварыліся ў пыл і зніклі…

Ягоныя былыя падданыя парадкавалі свой дом. Яны аднавілі сцены мурашынага замка, расчысцілі ўвесь бруд, што прынесла балота, і як маглі апекавалі сваіх нашчадкаў. Недзе ў сховах мурашынага замка ляжала адшуканая мурашамі карона іхняга каралеўства.

Мурашам было вельмі крыўдна, што ў іх дагэтуль няма караля. Свайго. Сапраўднага. З празрыстымі срэбнымі крылцамі й залатой каронай на галаве. Які б здолеў не губляць яе ніколі.

Мураш марыў аб гэтым таксама.

Аднойчы ён занядужаў, усё ягонае маленькае цельца працінаў боль, але… на наступны дзень усе ўбачылі ў яго за спінай крылцы. Яны былі сапраўдныя, каралеўскія. Хоць маленькія, але гнуткія й празрыстыя.

Усе ўсё зразумелі.

Крылцы раслі вельмі хутка, і ўрэшце настаў час, калі, уздзеўшы залатую карону, мураш узляцеў на вяршыню свайго мурашніка.

Лішне казаць, што новыя крылцы вырастаюць тады, калі адпадаюць старыя.

*1997*

# НН

## 1. Кожную кулю ў цэль

— Оба-на! — Старшы прапаршчык выхапіў газету з рук байца Н., задаволена пасміхнуўся, глянуў на першую старонку і зрабіў твар сур'ёзны, як у лейтэнанта. — Таварыш баец, прапаную вам слухаць мяне, і слухаць уважліва. Салдат увогуле, пагатоў салдат спецназа збройных сілаў, мусіць думаць выключна пра пастаўленую камандзірам задачу… Вы дзе ёсць? — слушна, не чакаючы адказу, працягваў прапаршчык: — Вы на палігоне. На палігоне, але не ў хацечытальні. А гэта што? Зноў газеткі няправільныя?

Прапаршчык пераможна, як доказ, трымаў у сваіх шахцёрскіх лапах чарговы нумар тыднёвіка «Наша Ніва»

Баец Н. пахмурна пазіраў на свайго камандзіра й маўчаў.

— У байца элітнага вайсковага злучэння мусіць быць адна газета — Вайсковы статут, а вы тут невядома чым мазгі размякчаеце. На агнявую крокам руш! — скамандаваў прапаршчык.

Баец Н. павярнуўся і, плюнуўшы, пацягнуўся на агнявую пазіцыю.

— Ат, кус-с-сяра бля, — цадзіў скрозь зубы баец, — сочыць ён за мной ці што, ужо трэці нумар пачытаць не дае. Крадзецца, бы тхор. «Мазгі размякчаеце», бац-цінак, — перакрывіў баец Н. свайго прапаршчыка. — Трэба ж так лапухнуцца. Як не заўважыў?.. — злаваў баец на самога сябе. — Нават першую старонку разгледзець як мае быць не паспеў.

Прапаршчык дачакаў, калі баец Н. дойдзе да агнявой пазіцыі, ухмыльнуўся і пачаў гартаць старонкі, разглядаючы фотаздымкі й малюнкі.

Ён запаў на гэтую газету выпадкова, аднойчы адабраўшы ў байца Н. нумар «Першай беларускай газэты з рысункамі» з апавяданнем пра беларускую мову з фатаграфіяй настаўніцы, што яе выкладала. Ад няма чаго рабіць пачаў чытаць, пакуль калыхаўся ў кабіне свайго «газіка», у часе маршу на вучэнні.

Настаўніца гэтая кранула самым радыкальным чынам ягоныя, здавалася, назаўсёды ўзведзеныя жыццёвыя бастыёны. Ён не раз згадваў яе вобраз падчас вучэнняў. Праз гэта ён і з беларускай мовы перастаў кпіць.

А яшчэ яму дужа былі даспадобы зацемкі «сабакі і грамадзяне» нейкага паэта Шніпа. Вось і цяпер прапаршчык пачаў з апошняй старонкі: «Дамовіліся грамадзян з сабакам ісці глядзець аскараносныя фільмы…»

— Што чытаем, прапаршчык? — за колькі метраў ад яго шпаркім крокам, злёгку нахіліўшыся наперад супраць ветру, у кірунку каманднага пункта йшоў палкоўнік, камандзір брыгады армейскага спецназа.

— Не чытаю, так вось, забраў у байца Н. апазіцыйную прэсу.

Прапаршчык збянтэжана працягнуў «НН» палкоўніку. Той на хаду ўзяў газету, кінуў вокам на першую старонку і рушыў далей.

«Вызвольны паход генерала Булак-Балаховіча», — прачытаў палкоўнік загаловак…

Камбрыг дачытаў тэкст і яшчэ раз глянуў на фотаздымак. На яго, разам са сваімі паплечнікамі, глядзеў хударлявы вусаты афіцэр вершкі на кані, рука якога ляжала на эфесе шаблі, укладзенай у похвы.

«Час быў — не пазайздросціш, — падумаў палкоўнік. — Круціла людзей, ламала… Але скончыў генерал як мае быць. Годна скончыў».

Камбрыг глянуў на агнявую пазіцыю, дзе адзіночнымі й кароткімі чэргамі гучалі стрэлы, падалі й зноў уздымаліся мішэні. Трасеры ярка крэслілі свае кароткія шляхі ў прасторы шарай гадзіны.

«Наўрад ці мне так пашанцуе, — падумаў ветэран спецназа. — Афганістан — гэта не Мазыр з Пінскам. Для Ахмад

Шаха ягоны Пандшэр быў што для Балаховіча Палессе… “Жураўлі над Палессем ляцяць”, — нечакана прыйшлі яму на памяць некалі чутыя радкі… Камбрыг паглядзеў у шарае неба й згадаў свой Афганістан, пасля Таджыкістан, Карабах ды іншыя камандзіроўкі на вайну. — Прыляцелі ўжо, дзякуй Богу… Ці не запозна толькі», — падумаў палкоўнік.

У сярэдзіне засмыліла. Ён скруціў газету ў трубку, усунуў яе ў бакавую кішэню камуфляжу й шпаркім крокам рушыў з КП на агнявую. Падышоўшы, камбрыг узяў у байца Н. АКС і кароткімі чэргамі, у асаблівы спосаб, па два патроны, адну за адной заваліў усе восем мішэняў. Пасля паклаў іх яшчэ раз, і яшчэ. З ледзяным спакоем, раз за разам прагаворваючы ў часе стральбы прызабытыя ўжо савецкія лозунгі: «Кожную кулю ў цэль. Наша цэль — камунізм». За ім напружана, здзіўлена, з захопленасцю сачылі ягоныя байцы.

Спустошыўшы магазін, палкоўнік адчапіў яго ад аўтамата, перакінуў затвор і націснуў на спуск. Ціўкнуў баёк. Ад распаленай аўтаматнай рулі падымаўся шызы дымок.

Адшукаўшы вачыма байца Н., камбрыг перадаў яму АКС, выняў з кішэні і працягнуў скручаную газету. Затым, гледзячы, як у паўзмроку ціха ажываюць і паўстаюць мішэні на стрэльбішчы, змрочна паўтарыў: «Кожную кулю ў цэль. Наша цэль — камунізм».

## 2. Менск з птушынае вышыні

Хуткасны ліфт спыніўся на лічбе 21. Дырэктар увайшоў у кабінет і адразу рушыў да панарамнага акна. З нядаўняе пары так ён пачынаў свой працоўны дзень. Гэта, можна сказаць, быў ягоны традыцыйны сакральны абрад.

Што можа быць больш хвалюючым, чым азіраць места, дзе марыў і здолеў укараніцца, з птушынае вышыні. На доле па магістралі мурашамі сноўдалі аўтамабілі, постаці людзей-чалавечкаў амёбамі рухаліся па шэрых тратуарах.

Ён узяў гэты горад, узяў яго не прыступам, але аблогай; не сілай, але хітрасцю, і цяпер, як пераможца, азірае гэты горад з вышыні дваццаць першага паверха гатэля «Бела-

русь». Нават кіраўнік гэтага краю сядзіць не так высока, як ён, — падумаў дырэктар.

Але чагосьці не хапала, каб адчуць поўную нутраную раўнавагу й спакой, нейкага апошняга штрыха, каб створаная ім карціна быцця набыла закончанасць… Дырэктар адчайна спрабаваў адшукаць гэты неабходны яму апошні штрых.

Яшчэ з хвіліну дырэктар глядзеў на панараму Менска, пасля занурыўся ў справы.

— Што з «МАЗамі»? — запытаў ён свайго супрацоўніка па тэлефоне.

— Тры Масква забрала, тры Кіеў, адзін Вільнюс. На падыходзе казахі, — бадзёра рапартавала слухаўка.

Сакратарка прынесла каву. Ён сербануў, апёкся, адсунуў філіжанку ўбок і ўзяўся быў за прэсу, дзе сёння было на адно выданне больш, чым звычайна. Тыднёвік ён набыў, выйшаўшы з кавярні па дарозе да офіса.

Дырэктар, адсунуўшы стос газет, узяў «НН», спыніўся на тытульнай, пасля адну за адной перагарнуў колькі старонак нованабытага тыднёвіка і зноў адкрыў тытульную, машынальна выхапіўшы вокам радок пад назовам «Першая беларуская газэта з рысункамі».

Ён палез у кішэню, дастаў і расправіў складзеную блакітную сурвэтку, на якой ягонай рукой было напісана — «НН. Менск з птушынае вышыні».

Словы гэтыя былі назвай артыкула на старонцы тыднёвіка, які ён заўважыў у руках дамы, што акурат сённяшнім ранкам хавалася ад ліпеньскай спёкі пад парасонам суседняга з ім століка ў кавярні «Блюз».

Ён часта перад тым, як падняцца на свой дваццаць першы паверх, заходзіў у кавярню «Блюз» і бачыў гэтую даму не ўпершыню, відаць, яна таксама была сталай наведніцай.

Пагодны ранак, прыемная жанчына, выпадкова заўважаны тэкст.

«Менск з птушынае вышыні», — навязліва круцілася ў галаве. Так, апроч уласна жанчыны, увагу прыцягнуў назоў артыкула, што яна чытала.

— Чаму? — падумаў дырэктар, і зараз жа сам сабе патлумачыў: бо назоў надта пасаваў ягонаму цяперашняму ста-

новішчу, пасадзе ды ўвогуле настрою. І безумоўна, назоў нарыса пасаваў новаму офісу на дваццаць першым паверсе гатэля «Беларусь».

Ён падышоў да свайго панарамнага акна, глянуў долу і падумаў, што добра было б зірнуць на гэтую даму з «птушынае вышыні». Цікава, ці ўгледзеў бы ён яе сярод чалавечкаў на доле.

Дырэктар стаў дырэктарам толькі з месяц таму і ўсё не мог набрыняць важкасцю новай пасады, атмасферай заваконнага краявіду. Адчуць новую вышыню, ахапіць агляднную перспектыву. Хіба не палову працоўнага дня ён праводзіў каля панарамнага акна, гледзячы на маленькія фігуркі ўнізе.

Ён зноў згадаў даму з тыднёвіка ў кавярні «Блюз». Як заўважыў яе, як, ацэньваючы, прабег вачыма па яе фігуры, па руках, што трымалі газету, і як нарэшце ўпёрся вачыма ў назоў артыкула, што яна чытала, — «Менск з птушынае вышыні».

Дырэктар яшчэ раз крадком зірнуў на даму. Яна відавочна была не надта падобная да жанчын ягонага асяродку, можа быць, менавіта гэты аспект ды назва чытанага ёй артыкула й падштурхнулі дырэктара да дзеяння.

— Ну, і якая ж птушка даляціць да сярэдзіны Менска? — паспрабаваў ён пачаць знаёмства жартам.

Жанчына адарвалася ад газеты і, упэўніўшыся, што звярнуліся да яе, лёгка, па-жаноцку падняла вышэй, з вачэй на лоб, сонечныя акуляры, адкрыўшы дапытлівыя вочы. Вытрымаўшы паўзу, яна трошкі павольна адказала:

— Няміга не Дняпро, — тут лётаюць не да сярэдзіны, але ў глыб. Гэта Менск, калі вы не заўважылі.

Ён збянтэжана змоўк. На суседні столік прыляцеў нахабны голуб і пачаў, звонка дзюбаючы, падбіраць крошкі. Ацаніўшы сітуацыю, дама вярнулася да чытання.

Веку трошкі за трыццаць, прыемны, злёгку загарэлы твар, вялікія блакітныя вочы, зграбная пастава. Было зразумела, што дама не з тых дурніц, што днямі таўкуцца ў модных крамах, скачуць у фітнэс-цэнтрах ды гойсаюць на падораных джыпах. Тых ён ведаў наскрозь. Усе іх магчымыя

стрэмкі й паролі, іх сістэму каардынат, бо, зрэшты, гэта была сістэма, у якой ён існаваў, у якой ён быў дока і таму лёгка валіў іх на лапаткі ў простым і няпростым сэнсах. Гэтая ж была з катэгорыі дам, якія не рабілі выгляд, але проста жылі нейкім сваім, не надта яму зразумелым жыццём.

Не тое каб дырэктар баяўся такіх. Не. Але заўжды адчуваў іх, як бы гэта сказаць: вышэйшасць, перавагу ці што? З-за гэтага часам злаваў, рабіўся нахабным, просталінейна нападаў і ад таго прайграваў яшчэ болей.

Яны нязмушана адбівалі ягоныя наскокі альбо папросту не звярталі на іх увагу. Такая акалічнасць раздражняла. Ён нават прысвоіў ім кваліфікацыю — «мянчанкі пародныя». Яны здаваліся яму нейкай вышэйшай кастай сталіцы і, калі казаць шчыра, былі аб'ектам ягонай асаблівай увагі. Мець такую даму ў сябрах… Ён падазраваў, што менавіта гэта й быў той апошні штрых да завяршэння ягонай карціны канчатковай і безумоўнай заваёвы Менску.

Жанчына тым часам пачала складаць газету, збіраючыся сыходзіць. Набраны тлустым шрыфтам загаловак, што прыцягнуў ягоную ўвагу, махнуў папяровым крылом і схаваўся ў нетры тыднёвіка.

Дырэктар хуценька, каб не забыць, запісаў на сурвэтцы: «НН. Менск з птушынае вышыні».

— Пра што артыкул? — зрабіў ён другую няўклюдную спробу завязаць размову.

— Пра Менск, — адказала яна, выдыхнуўшы. Пасля глянула наўпрост на дырэктара, а далей, прымружыўшы вочы, паверх яго, у неба.

— У часе й прасторы? — з іроніяй спытаў дырэктар.

— Пра каханы горад, — нібыта не пачуўшы ягонага наступнага пытання і інтанацыі, з якой тое пытанне было зададзена, адказала яна і паўтарыла: — Пра каханы горад.

Ён адчуў, што зноў схібіў.

— Давайце дружыць, — паспрабаваў ён неяк адцягнуць яе сыход, прыбраўшы іронію ў голасе, але ягоная фраза не прымусіла яе спыніцца.

— Давайце, але іншым разам, — адказала яна, працягваючы збірацца. Цяпер ужо іронія гучала ў яе словах. Яе да-

мская сумачка была на плячы, сонечныя акуляры зноў баранілі вочы ад нахабных позіркаў. — Мне тэрмінова трэба ляцець у нетры Нямігі, — усміхнулася дама й, выйшаўшы з-за століка, рушыла ў бок аднайменнай станцыі метро.

Дырэктар паглядзеў, як яна выйшла з-пад парасона на сонечнае святло, як перайшла вуліцу й, падняўшыся па прыступках, растала ў скверы Верхняга горада. Ён зірнуў на сурвэтку, дзе напісаў назву артыкула і газеты, каўтнуў астаткі астылае кавы і таксама падняўся.

У бліжэйшым шапіку ён адмыслова купіў апошні нумар «НН», але гартаць яго на вуліцы не хацеў. Зараз жа, у офісе, каля панарамнага акна, дырэктар стаў старанна праглядаць старонкі, вышукваючы патрэбны нарыс. Яму надта карцела даведацца, што ў тым тэксце было такога, што гэтая «мянчанка пародная» з такой цікавасцю чытала, не адрываючы вачэй, пакуль сядзела ў кавярні. Але нарыса з такой назвай у гэтым нумары яму знайсці не ўдалося.

* * *

Неўзабаве дырэктар загадаў сакратарцы здабыць падшыўку «НН». Яму здавалася, што, калі знойдзе й прачытае тэкст «Менск з птушынае вышыні», яму нарэшце, пашчасціць падступіцца ўшчыльную да заваёвы «менскай пароды», зрынуўшы апошні бастыён гэтага Горада. Такая думка пасялілася ў ягонай галаве і вымагала дзеяння.

Тэкст ані не знаходзіўся, ён нібыта знарок уцякаў ад яго, як можа ўцякаць амаль здабытая перамога ад непадрыхтаванага да яе пераможцы. Дырэктар усё болей раздражняўся й кожнага разу, не знайшоўшы тэкст, цёр вялікімі кулакамі то лоб, то вочы, то скроні.

Неяк, адклаўшы чарговы прагледжаны нумар, ён заўважыў на апошняй старонцы «НН» набраную адмысловым тлустым шрыфтам аб'яву: «Гэты нумар выйшаў дзякуючы ахвяраванню спадара…»

— Эўрыка, — ледзь не крыкнуў дырэктар і радасна пацёр рукі.

Перачытаўшы аб'яву колькі разоў, дырэктар зноў выклікаў сакратарку. Калі яна ўвайшла, ён загадаў ёй, па-пер-

шае, зрабіць падпіску на тыднёвік; па-другое — вылучыць рэдакцыі грашовую дапамогу.

— Калі ласка, пазначаную суму ў рэдакцыю газеты.

— Рэкламай? — запытала сакратарка.

— Гатоўкай, і без залішняга шуму. Вы ж ведаеце, наш час не любіць непрадуманай рэкламы. Няхай будзе пазначана — ад спадара ZET… І яшчэ пытанне: ці гэта ўся падшыўка?

— Не, — адказала сакратарка. — Толькі пачынаючы з нулявых гадоў. Ранейшыя нумары, за «шалёныя дзевяностыя», студэнты па асобніках расцягалі. Прынамсі, так мне патлумачылі ў бібліятэцы.

Неўзабаве, за добрай вячэрай, традыцыйна пачаўшы праглядаць securingнабыты нумар «НН» з апошняй старонкі, дырэктар адшукаў знаёмую рамку з аб'явай, дзе было пазначана: «Гэты нумар выйшаў дзякуючы ахвяраванню сп. ZET».

Ён задаволена ўсміхнуўся й глынуў піва. Яму згадалася кафэ «Блюз» і «мянчанка пародная». Ён падумаў, што наступным разам (дырэктар не сумняваўся на сустрэчу ў «Блюзе») яму будзе з чаго пачаць размову і, адпаведна, шлях да сваёй перамогі. Ён нават уявіў, як гэта будзе адбывацца: «НН» у ягоных руках будзе паролем. Ён, як бы мімаходзь, пакажа ёй гэтую рамку з аб'явай на апошняй старонцы й намякне, хто хаваецца за літарамі на аб'яве, убачыць яе непрыхаванае здзіўленне… Далей справа тэхнікі, — дырэктар задаволена пацёр рукі.

Ён ажно адчуў, як на твары разгладзіліся зморшчыны і ўнутры зайграла мелодыя перамогі. Зноў глынуўшы піва, дырэктар канчаткова расслабіўся і, не стрымаўшыся, пазяхнуў.

Хутка ягоныя думкі паляцелі звычайным маршрутам. Выйграў добры кантракт на продаж мазаўскіх лясных цягачоў у Карэлію. Дырэктар прыкінуў, колькі на гэтым можна зарабіць, якім чынам і куды пасля ўкласці грошы ад прыбытку, на якое мора выправіцца ў адпачынак. Сонца, пальмы, белы пляжны пясок, гавайская кашуля — застракацелі ў яго перад вачыма яркія карцінкі, і ён прымружыў вочы…

«Менск з птушынае вышыні», «першая беларуская газета з рысункамі» незаўважна, як воблака ў небе, раставалі ў ягонае памяці.

## 3. Каб любіць Беларусь нашу мілую…

«Асцярожна, дзверы зачыняюцца» — шыплівы голас дынаміка ледзь можна было разабраць. Дзверы з грукатам сышліся, і цягнік рушыў далей.

— Ат, халера! — сваім краем шклянка балюча дзюбнула па Юзікавых зубах, і гарэлка, пераліўшыся, пацякла па ўшчаціненым падбароддзі мужычка ў зашмальцаваным пінжачку.

— Гы-гы-гы. Сцеражыся цягніка, Юзік!

Ягоныя спадарожнікі гучна засмяяліся, зморшчыўшы такія ж няголеныя, як у Юзіка, твары. Адзін, што сядзеў ля акна, схіліўся над разасланай на сядзенні газетай, сцізорыкам адкроіў ад шматка сала невялічкі скрылік і паклаў яго на кавалачак хлеба. Туды ж дапасаваў кружок агурка й працягнуў Юзіку:

— Прыкусі во лепей, — пасля ён зноў схіліўся над салам.

Газета ёрзала па сядзенні ў тахт руцэ са сцізорыкам, што кроіла чарговы скрылік. З-пад заламанага вугла было відаць частку газетнага імя «…ша Ніва». Мужыкі моўчкі жавалі, зрэдку бліскаючы дзірамі шчарбатых ратоў і металёвымі каронкамі.

Ляснулі дзверы тамбура, і ў вагон шырокімі пэўнымі крокамі зайшоў, нібыта выскачыўшы з тэлевізійнае рэкламы, каўбой Мальбара. Ягоны стэтсан быў насунуты на вочы, шырокія плечы й высокі рост нагадвалі паставу Шварцэнегера; пышныя, закручаныя ўгару вусы рабілі партрэт Мальбара закончаным.

Гайдаючыся ў вагоне, як на палубе, Мальбара параўняўся з кампаніяй і ўсеўся насупраць. Мужыкі разлілі па астатняй і хрумкаючы гуркамі, пасунулі пустую пляшку да сценкі вагона. Салёны агурковы расол яшчэ цёк па мазольных пальцах і крапаў на газету, ягоная дарожка няўхільна набліжалася да сальнае плямы на газетнай старонцы.

Мужчыны ляніва абмяркоўвалі вынікі «бітвы за ўраджай», адсутнасць заробкаў, брак дэталяў і паліва для сваіх камбайнаў.

— З такой раздаткай мой тыднёвік можа загнуцца ў любы момант, — сумна зазначыў Юзік. Ягоныя прыяцелі згодна залівалі галовамі.

Каўбой, які да таго абыякава глядзеў у акно, павярнуў галаву ў бок кампаніі, зірнуў на Юзіка, пасля на тлустую пляму з парэшткамі ежы на газеце й зморшчана натапырыў вусы.

— Такую краіну развалілі, такую дзяржаву, — памяняў Юзік тэму размовы й пераскочыў позіркам з газеты на пустую пляшку, якая ціхенька дзінькала аб сценку.

— Ужо-о ж, — амаль хорам падтакнулі астатнія.

— Чыя гэта газета? — голас каўбоя Мальбара перакрыў ляскат цягніка, а вочы запытальна, з лёгкім нахабствам утаропіліся ў кампанію, што сядзела насупраць.

— Мая, — не адразу, трывожна напяўшыся, прамовіў Юзік і перастаў працаваць сківіцамі. Пасля глянуў, шукаючы падтрымкі, на сяброў і крадком зірнуў на газету, паспеўшы прачытаць назву выдання.

Мужчыны напружана сцішыліся ў чаканні.

— І дзе ж ты, дзядзька, яе знайшоў? — дапытваўся Мальбара.

— Пляменнік з Менску прывёз, а што?

— Давай яе сюды, — прамовіў каўбой і, не чакаючы згоды схапіў газету й трасянуў яе ў паветры. Кроплі расолу, наліплыя хлебныя крошкі й корак ад пляшкі паляцелі долу. Твар каўбоя скрывіўся, адно вока заплюшчылася, другое засвяцілася незвычайным агеньчыкам, ад чаго ён набыў выгляд пірата з дзіцячага мульціка.

Газета ўсё яшчэ плаўна лунала ў паветры, калі Юзік прачытаў радок пад назвай выдання — «Першая беларуская газэта з рысункамі».

— Надта ж мне здаецца, што вы, дзядзькі, беларусы, — зычна трубіў каўбой Мальбара, так і не расплюшчыўшы адно вока.

Трое камбайнераў адначасна, моўчкі й трохі спалохана кіўнулі галовамі.

— Але ж беларусы на гэтай газеце не ядуць, — працягваў трубіць каўбой. — Першая беларуская газета. З рысункамі. Беларусы яе ЧЫ-ТА-ЮЦЬ, — паставіў гучную кропку Мальбара. Ягонае заплюшчанае вока нарэшце расплюшчылася й зірнула на свет. Каўбой усміхнуўся й перастаў быць піратам. Газета яшчэ раз матлянулася ў паветры, вызваляючыся ад крошак, і знікла ў кайстры каўбоя з надпісам ADIDAS. Наўзамен з кайстры выскачыла пляшка «Белавежскай» з ужо скручаным коркам.

Каўбой, дзінькнуўшы рыльцам «настойкі горкай», добра кульнуў з яе ў бліжэйшую шклянку.

— Але, дзядзькі, за нашу й вашу Ніву! — Мальбара адным глытком каўтнуў налітае, хукнуў, падкруціў свае вусы й паставіў пляшку са шклянкай на сядзенне каля кампаніі. Пасля зяззяў вачыма, насунуў на лоб свой стэтсан і, не развітваючыся, пад трывожныя позіркі работнікаў палёў і агародаў выйшаў у тамбур.

«Каб любіць Беларусь нашу мілую…» — пачулася з тамбура, пакуль гугнявы голас дынаміка не наплыў сваім шапялявым голасам на знаёмы матыў:

— Станцыя Седча. Асцярожна, дзверы зачыняюцца…

*2006*

# З ВЫШЫНІ ПТУШЫНАГА ПАЛЁТУ

## 1

Машына паслухмяна легла на крыло і, зрабіўшы віраж, зайшла на цэль. Яшчэ некалькі секундаў — і штурмавік харкнуў залпам са свайго нутра. Пілот не паспеў заўважыць, ці пацэліў, бо зноў заклаў віраж, заходзячы на другую спробу.

Зрэшты, ён ведаў, што ракеты накрылі цэль. За апошнія амаль дваццаць гадоў ён не памятаў, каб схібіў.

Апярэджваючы гук, машына другі раз зайшла на атаку. Унізе яшчэ лёталі ў паветры кавалкі таго, што называлася цэллю. Зямля сыходзіла клубамі дыму, то там, то тут бліскалі языкі агню.

Ён прымусіў штурмавік знізіцца яшчэ болей і націснуў кнопку бамбалюкаў.

Машыну, як на арэлях, ад страты вагі панесла ўгору. Ад пачуцця дасканала выкананага манеўра ён аж засмяяўся. Цэлі болей не існавала. Гэта называлася кропкавае бамбаванне. Яны ад самага пачатку карысталіся падобнай тактыкай, каб накрываць толькі аб'екты спецпрызначэння, бо гэта была іх зямля.

На вышыні птушынага палёту ён развярнуў машыну і рушыў у кірунку БАЗЫ. З-пад крылаў ягонага «Харыера» імкліва ўцякалі вершаліны дрэваў, палі, рэчкі, узлескі, вёскі. Ужо дваццаць гадоў ён бачыў сваю зямлю толькі з вышыні птушынага палёту. Яна хоць і мянялася, але для яго заставалася той самай.

2

На заданні яны ляталі часцей па адным, радзей парамі альбо звёнамі і амаль заўжды накрывалі цэлі, якія вызначала кіраўніцтва. Варожыя зеніткі раней іх крыху турбавалі, але апошнім часам было ціха. Чаму? Яны не задумваліся. Іхняя задача палягала ў дапамозе аддзелам унутранага супраціву, якія змагаліся там, унізе, на зямлі. Дзеля гэтага і была створана БАЗА.

Раней сувязь з унутраным супрацівам была больш шчыльная. Рэгулярна праводзіліся нарады, пасяджэнні, ствараліся камітэты, прыязджалі разумныя галовы з іншых замежных базаў, вывяраліся планы, вызначаліся аб’екты атак.

Ён не ўдзельнічаў у гэтых сходах. Ён — лётчык штурмавой авіяцыі. Калі разумныя галовы рыхтавалі стратэгічныя планы, ён у прыгожай форме ваенна-паветраных сілаў, з адчуваннем прыемнай стомы сядзеў у адным з невялічкіх мясцовых рэстаранчыкаў і павольна цягнуў віскі — напой пілотаў штурмавой авіяцыі.

Праз паўзмрок ён глядзеў на моладзь суседняе краіны і ўзгадваў сваю маладосць. Калі гэта было? Учора ці сто гадоў таму? Сто, не меней. Сто гадоў самоты, нечакана вымавіў ён уголас назву вядомага рамана. Дзяўчына за найбліжэйшым столікам з цікаўнасцю паглядзела на яго. Залу поўніў густы аксамітны голас саксафона Луі Армстранга…

3

Дзень быў пагодны. БАЗА паказалася здалёк. З вышыні птушынага палёту ён бачыў тых, хто чакаў ягонага вяртання. Ён даў газу, пацягнуў штурвал на сябе і на фарсажы, нібы свечка, панёсся вертыкальна ў неба. Заклаўшы некалькі фігур вышэйшага пілатажу, штурмавік, раптам выпусціўшы закрылкі і фантан парашутаў, далікатна крануўся пасадачнай паласы. Публіка была ў экстазе. Здаецца, скрозь гул матораў ён чуў ейны віскат, свіст, воплескі. Яму былі даспадобы такія штукі. На мове пілотаў штурмавой авіяцыі гэта называлася «хвост паўліна».

Расшпіліўшы рамяні і пацягнуўшыся, ён думаў, як хутчэй прайсці праз узбуджаны натоўп, зрабіць даклад і, прыняўшы душ, прапусціць чарку-другую віскі. Віскі пасля выкананага задання… Гэта ўжо была традыцыя.

4

Зацемненая зала лацінскага рэстаранчыка, як заўжды ўдзень, была пустая, толькі ля стойкі аб нечым буркаталі дзве прыгожыя нетутэйшыя цёмнавалосыя дзяўчыны, відаць студэнткі. Цёмнавалосыя былі яму даспадобы, было ў іх нешта, што злёгку хвалявала яго, нейкая дзіцячая нястрыманасць.

Тут было цікава назіраць за наведнікамі, паралельна разважаючы над сваімі праблемамі, альбо проста сядзець, ні аб чым не думаючы, прымасціўшыся ў кутку.

За акном манатонна цюкаў дождж. Пачатак восені…

Ён глядзеў, як праз туман ледзь праяўляюцца абрысы старога места. Ён мог распавядаць пра яго гадзінамі. Яму быў вядомы кожны ягоны закутак. Тут усё было роднае, але нішто не было сваім. Можа, апроч іхняе БАЗЫ. Увогуле, БАЗА была адметнасцю горада. Абсталяваная па найвышэйшым разрадзе, яна выконвала не толькі ўласцівыя любой такой базе стратэгічныя функцыі, але служыла яшчэ фарпостам дэмакратыі. Мясцовыя ўлады прыводзілі сюды, як на экскурсію, ледзь не кожную высокую замежную дэлегацыю. Асабовы склад БАЗЫ лічыўся элітай. Яны мелі ступень павагі, якой мог ганарыцца не кожны мясцовы вайсковец. Але… толькі ў межах, вызначаных стратэгічнымі задачамі, якія яна выконвала. У астатнім ім карэктна, але цвёрда было акрэслена іхняе месца. Зрэшты, такое становішча яго цалкам задавальняла. Ён ведаў, што тое самае і на іншых замежных базах, што былі раскіданыя ўздоўж межаў ягонай краіны. Іх задача — паражаць цэлі і пашыраць тэрыторыю дэмакратыі. Дзеля гэтага тут песціць вока эскадра навюткіх ваенна-марскіх «Харыераў». Усё астатняе пасля.

5

Ён не заўважыў, як запоўнілася зала. Народ паводзіў сябе разняволена, але прыстойна. Разглядаючы са свайго кутка жанчын, ён з нейкай пякучай для сябе асалодай зазначыў, што там, на Бацькаўшчыне, жанчыны прыгажэйшыя… Прынамсі, былі дваццаць гадоў таму…

У тэлевізары пачаўся выпуск навінаў. У анонсе, сярод іншага, паказалі ягоны «хвост паўліна».

Яны былі амаль тэлезоркамі. Не толькі пілоты, але ўсе службоўцы іхняе БАЗЫ, асабліва калі ўзрастала напружанне. Розныя каналы і праграмы літаральна палявалі на іх. Як жартавалі пілоты, гэта было часткай іхняе працы.

З экрана на яго глядзеў паважны, са стомленымі вачыма чалавек у строгай бела-сіняй форме ваенных лётчыкаў, з чатырма нашыўкамі за кожную сотню баявых вылетаў. Скрозь тлум, які панаваў у зале, цяжка было разабраць словы, але яму гэта было няважна. Гледзячы на сябе ў экране тэлевізара, ён з усмешкай зноў падумаў пра тое, што яму не хапае невялікага шнара дзесьці на скуле. Вядома, кожны лётчык мусіць быць са шнарам, так яму здавалася, калі зусім зялёным ён быў залічаны ў асабовы склад БАЗЫ, але за мінулы час заміж шнараў на твары з’явіліся толькі глыбокія зморшчыны.

6

Стоячы ля акна на КП БАЗЫ, ён сёрбаў каву і назіраў, як вакол ягонага «Харыера», фаршыруючы таго боекамплектам, мітусіцца абслуга. На падаконні, скруціўшыся ў клубок, драмаў кот. Ён не любіў катоў. Зрабіўшы апошні каўток, незаўважна для астатніх ён скінуў ката з падаконня і выйшаў. Яго чакаў «Хары», як ласкава называў ён свой самалёт.

7

Не набіраючы вышыні, штурмавік праскочыў мяжу. На вышыні птушынага палёту радары не бралі. Маршрут быў вызначаны, цэль вядомая, перадатчык настроены на хвалю БАЗЫ. Унізе мільгацелі ўсё тыя ж лясы і вёскі. Ён падлятаў, ці, дакладней, падпаўзаў да свайго аб’екта. Імкліва

набраўшы неабходную для атакі вышыню і зафіксаваўшы ў прыцэле аб'ект, машына з ровам звалілася ў піке. Недзе на зямлі рвалася, стагнала і раўло. Прыборы паказалі трапнасць атакі. Ён на ўласныя вочы бачыў пратуберанцы полымя, што шугала на зямлі, непадалёк ад шэрай палоскі дарогі.

Раптам БАЗА загадала тэрмінова мяняць курс. Наўпрост на яго ішлі варожыя бамбардзіроўшчыкі. Яны базаваліся там, на ўсходзе, і накрывалі не нейкія аб'екты, а цэлыя квадраты ягонай краіны. Праз хвіліну ён іх убачыў. Колькасцю не меней за пяцьдзясят машынаў, зрэшты ў меншай колькасці яны не лятаді, бамбавозы прасунуліся яшчэ з кіламетр і пачалі пікіраваць на лес. Каго яны бамбілі, было невядома. Ён ужо забыў, калі нешта чуў пра больш-менш значныя злучэнні ўнутранага супраціву. Але… лесу пасля іхняга шчыравання не засталося. Пра тых, хто, магчыма, быў у лесе, варта было забыць.

Пазбавіўшыся свайго начыння, значна хутчэй, не збіваючы парадку, бамбавозы накіраваліся назад. Іхнія маторы гулі ўжо роўна, без надрыву. Ён кінуўся наўздагон, схаваўшыся ў аблоках над бамбардзіроўшчыкамі, лёгка злавіў у прыцэл аднаго з іх, палец быў на тумблеры пуску, штурмавік напружана чакаў каманды… Але… Што рабіць аднаму супраць пяцідзесяці?.. Яшчэ нейкі час яны ішлі паралельнымі курсамі, палец не адпускаў тумблера пуску, ды рашэнне было прынятае, «Хары» пачаў разварот. Ён амаль развярнуўся, калі ўбачыў аднаго адсталага.

Адсталы так хутка набліжаўся да бамбавозаў, што можна было падумаць, нібыта ён атакуе. «Хары» зрабіў манеўр і, зайшоўшы з боку сонца, паласнуў адсталага з буйнакаліbernага. Было відаць, як трасёры імкліва памкнуліся да сваёй ахвяры. Адсталы тарганууўся, задыміў і пачаў страчваць вышыню. Ён адчуваў захапленне, такое самае, калі хлопчыкам глядзеў хроніку Другой сусветнай. Стужка круцілася далей, але ён быў ужо па іншы бок экрана.

Падабраўшыся бліжэй, ён нечакана заўважыў на борце падбітага знаёмыя колеры… фігуру лётчыка ў кабіне… На імгненне яму падалося, што яны сустрэліся вачыма…

У першую секунду ён разгубіўся, пасля на нейкі момант яму зрабілася нават вусцішна…

Правёўшы падбітага да вышыні птушынага палёту, ён згубіў яго з выгляду. Перашкаджалі нізкія аблокі, прабівацца ніжэй было небяспечна. Пакружыўшы яшчэ з хвіліну і не пачуўшы выбуху, штурмавік лёг на зваротны курс.

— Халера. Гэта вайна, — заспакойваў ён сябе. — На вайне як на вайне, — раздражнёна амаль выкрыкнуў ён крыху пазней.

На гэтай вайне збіццё сваіх здаралася неаднойчы і ўспрымалася без залішніх эмоцыяў. Да такіх акалічнасцяў іхняй вайны прывыклі.

— À la guerre comme à la guerre, — паўтарыў ён па-французску ўжо спакайней.

Праз некалькі хвілінаў мусіла паказацца мяжа, за ёй БАЗА, далей «хвост паўліна» і… Як там файна… Але нешта не давала спакою. Не тое каб яго дужа хваляваў той, збіты, нават пры жаданні яму яго не знайсці, але раптам ён зразумеў, што амаль дваццаць гадоў бачыў Бацькаўшчыну толькі з вышыні птушынага палёту, а той, збіты, так ці інакш крануўся яе.

Пачало выпагоджвацца, і штурмавік павольна разварнуўся ў напрамку знішчанага аб'екта.

8

Дым крыху замінаў агляду, але бетонку было добра відаць.

Ён зрабіў ужо некалькі спробаў, але не мог сесці. Ад напругі твар залівала потам, рукі, спіна, шыя як скамянелі.

— Гэта ж не аэробус, хопіць трыццаці метраў, — зноў і зноў бубніў ён сабе, але ніжэй птушынага палёту не мог. Учапіўшыся ў штурвал, бледны, са сцятымі зубамі, ён раз за разам заходзіў на пасадку…

9

Калі сціхлі маторы, ён убачыў сонца. Сонца было шмат. Недалёка на гары стаяла вёсачка. Ён выбраўся з кабіны. Надзейныя лётныя чаравікі мякка ступалі па бетонцы.

Ён не быў на гэтай зямлі дваццаць гадоў… Абапал дарогі аж да самага лесу цягнуліся ладныя кавалкі пашы. Конікі тарахцелі, як ягоны буйнакаліберны. Гучна лаялася цётка, якая гнала дубцом аблудную карову.

Ён прагна ўзіраўся ва ўсё навокал і лавіў кожны гук. Дваццаць гадоў… Зайшоўшы ў цень свайго штурмавіка, ён раптам спыніўся і на імгненне знерухомеў, пасля імкліва павярнуўся ў бок пашы і ледзь не аслупянеў. На месцы знішчанага ім гадзіну таму аб'екта не было ні дыму, ні агню, ні варонак ад бомбаў. Падобна, не было і самога аб'екта. Кіламетры за два далей стаяў сасновы лес, які на ягоных вачах спалілі бамбавозы. Рэдкія аўтамабілі не звярталі аніякае ўвагі ні на яго, ні на ягонага «Хары», быццам штурмавікі на іхніх дарогах сустракаліся кожны дзень. Ён інстынктыўна ўхапіўся за самалёт. Дзюраль быў яшчэ цёплы… Насустрач яму кульгаў трактар з прычэпам-цыстэрнай. Павагаўшыся, ён нясмела махнуў рукой трактарысту. Ледзь не зачапіўшы крыло штурмавіка і абдаўшы яго самога смуродам нафты і гною, трактар пракульгаў далей у напрамку вёскі.

— Мяне няма… і самалёта няма… — ці то спалохана, ці то здзіўлена падумаў ён. Ягоны твар люстрана адбіваў гэтыя пачуцці грымасай незразумелае крыўды. Так сустракаюць шалёную кулю. Праз нейкі час ён цяжка выдыхнуў і неяк няўпэўнена зрабіў крок услед за трактарам. Грымаса крыўды па-ранейшаму не сыходзіла з ягонага твару. Ён стомлена падымаўся ўгару, да вёскі.

## 10

У крайнім двары мужчыны ўтрох білі кабана. Здаровы чорны кабан сіпата вішчаў і адчайна вырываўся. Мужыкі ўпрэлі, на іхніх тварах блішчэлі буйныя кроплі поту, на шыях успухлі вены. Было відаць, як натруджана пульсуе кроў, як магутна ходзяць пад скурай цягліцы.

Ашчэрыўшы жоўтыя зубы і закаціўшы ліловае вока, кабан не заціхаў ні на імгненне, прадчуваючы, што яго чакае.

— Памажы, — натужна прабасіў дужы чорнабароды мужык з кулакамі, што калоды, кіўнуўшы яму на кабанову нагу, што вырвалася з адмысловай пятлі. Ён ухапіўся за тую нагу з капытом і паспрабаваў прыціснуць яе да зямлі. Ка-

бан вырваў нагу і штурхнуў яго так, што, адляцеўшы на некалькі метраў, ён ледзь застаўся стаяць.

— Ат, калека, — праз зубы прамармытаў чорнабароды, імкліва выпрастаўся, свабоднай рукой злавіў нагу вепрука, якая сутаргава калаціла паветра, і, наваліўшыся зноў, намёртва прыціснуў яе да зямлі.

— Не марудзь. Давай, — прахрыпеў чорнабароды другому, невысокаму і каржакаватаму. Каржакаваты зірнуў на кабана, прымерыўся і кароткім рэзкім рухам усадзіў доўгую вузкую швайку ў чорную свіную тушу па самыя тронкі. Кабан задрыжэў, ікнуў і заціх.

Мужчыны былі дасведчаныя, праз паўгадзіны збольшага ўсё было скончана. Цёмная, амаль фіялетавая кроў збягала ў вядро…

Ён уважліва, нават крыху ўсхвалявана глядзеў на іхнюю працу.

— Не крыўдуй, — ужо ўсмешліва зноў загаварыў да яго чорнабароды, — я ж разумею, як мог, так памог, — засмяяўся ён і выцер рукавом пот. Гэта быў ужо не засяроджаны і напружаны твар чалавека, занятага сур’ёзнай працай. Ягоныя рысы ад смеху размякчэлі і расплыліся, у вачах не было ўжо суровага бляску.

— Хадзі частуйся. Наліце яму, хлопцы.

Самагонка была хлебная, з невыносна прыемным пахам чагосьці даўно забытага, ён не мог зразумець чаго, намагаўся, але не мог.

Ягоны позірк блукаў па іхніх тварах, ён не чуў, што яны, усміхаючыся, казалі адзін аднаму. Ён глядзеў, як звыкла і няспешна выціраў швайку каржакаваты, як схіліўся над тушай трэці, высокі з доўгімі жылаватымі рукамі і таксама доўгімі светлымі вусамі. Мужчыны зрабілі сваю справу. Мужчыны былі ў гуморы. Ён глядзеў у іхнія вочы і разважаў: а ён, пілот штурмавой авіяцыі, ці здольны ён такім дасканалым кароткім рухам усадзіць швайку ў свінячае сэрца?

## 11

На патэльні ўжо скварчэла свежына, з’явілася бульба, цыбуля, хлеб, яшчэ слоік самагонкі… Ягоныя думкі завіхурыліся і расталі недзе ў вышыні. Ён забыў пра ўсё: аб’екты,

* * *

Калі ён вярнуўся да прагляду, была чарга сюжэта з Грузіі. Невялікая, з даўгімі светлымі валасамі аўтарка, зусім не падобная да грузінкі, стаяла ля сцяны.

Экран поўніўся начным горадам. Праз цемру несліся трасёры, гучалі выбухі, успышкі выхоплівалі кавалкі вуліц і дамоў. Ішла вайна.

Далей былі брудны снег на разбітым праспекце, людскія чэргі па хлеб і аўтаматныя па жыццё. Грузіны стралялі ў грузінаў.

Ён паспеў падумаць, што, па сутнасці, так тады і не дабраўся да Грузіі,

Бліснула сонца, высвеціўшы гадзіннік на старой вежы. Прыгожыя, адмысловай працы стрэлкі паказвалі сем раніцы. У шызы ранак глядзелі выпаленыя вачніцы вокнаў, пні пад корань спілаваных дрэваў на праспекце Руствелі. Самотны брудны сабака, што стаяў, падціснуўшы параненую лапу.

Хіснуліся правады, з якіх спудлавана зляцела варона, і аднекуль, нібыта карабель, выплыў тралейбус.

То было як дзіва, рэпарцёр нават падумаў, што памяняўся сюжэт, але русавалосая аўтарка стаяла на сваім аўтарскім месцы.

Тралейбус яшчэ не паспеў знікнуць з кадра, як на пляцы паказаўся чалавек. Чалавек нетаропка ішоў па шэрым, выстуджаным бруку. Ён быў зусім маленькі ў параўнанні са, здавалася, неабсяжным пляцам.

Праз рэха выбухаў і гугненне кулямётаў, якое адбівалася ад сценаў мёртвых будынкаў, кульгаючы, але ўпэўнена чалавек ішоў да вежы, дзе, як у гняздзе, сядзеў галоўны гадзіннік места.

Чалавек быў стары. Ён з цяжкасцю адчыніў чыгунныя дзверы і стаў узыходзіць па каменных вежавых сходах. Было відаць, як яму нялёгка. Узышоўшы наверх, дзе хаваўся вялізны механізм, стары спыніўся і аддыхаўся, а пасля пачаў над ім варажыць. Ягоныя рухі былі няспешныя, поўныя дасканаласці, магіі, нейкага патаемнага сакральнага сэнсу і любові.

У вузкія шчыліны вежы зазірала хмарнае неба.

Рэпарцёр бачыў перад сабой вочы старога майстра, ён углядаўся і пазнаваў іх. Гэта былі тыя ж вочы, што ў старога, які чытаў зорнае неба, тыя ж, што ў цыгана ў баснійскім мястэчку.

— Гадзіннік не павінен спыняцца. Ніколі… — рэхам гучалі з экрана словы старога майстра.

У бары, дзе скончаўся апошні дзень фестывалю, было непрадыхнуць ад людзей, дыму і смеху. Ён вышукваў позіркам светла-русую аўтарку. Рэпарцёр быў упэўнены: яна ведала тое, што было яму так патрэбна. Яна ведала. Але яе не было.

* * *

Рэпарцёр згадаў Грузію. На перавале, непадалёк ад Кадорскай цясніны, дзе віравала вайна, яны рыхтаваліся да працы, як неўзабаве заўважылі некалькі аўтаматных руляў, што сачылі за імі з-за камянёў. Грузінскі пост так да канца і не даў веры, што яны журналісты, але сысці не перашкаджаў. Яны былі ўжо ступілі некалькі крокаў, як ляснулі затворы…

Тады ён уведаў, як спыняецца час. Не было чуваць ні шоргату іхніх рухаў, ні шуму горнага ручая, ні рыпення снегу пад нагамі. Нічога…

Пасля ён думаў, што не пачуў бы і стрэлаў, якіх яны, сцяўшыся, чакалі…

Калі ён крадком азірнуўся, вайскоўцы даставалі патроны з патроннікаў сваіх акаэмаў.

Вось і ўся Грузія.

Раптам праз акно, на даху суседняга дома, паказаліся камінары ў сваіх дзівосных капелюшах, з колцамі вяровак, перакінутых цераз плячо, шчоткамі ды іншым рыштункам.

* * *

Як і тады, у глядзельнай зале, яна стаяла, прытуліўшыся да сцяны, і моўчкі глядзела ў акно. Міма шаргацеў чамаданамі адцвітаючы фестываль.

Не павітаўшыся, стрымліваючы ўзрушанасць, рэпарцёр адразу чамусьці спытаў, як імя старога грузіна з яе сюжэта.

Яна паглядзела на яго і, счакаўшы, адказала, што гэта зусім не грузін.

— Гэта… — яна зноў запынілася, як бы падумаўшы, ці зразумее ён тое, што яна скажа: — Гэта — Наглядчык Галоўнага Гадзінніка.

— Як вам удалося? — рэпарцёр ад хвалявання ледзь не перайшоў на шэпт.

— Проста я шукала… Кожны знаходзіць тое, чаго прагне. Праўда.

— Праўда?

— Проста вы знаходзілі тое, што хацелі, і вашыя… як сказаць, тыя, са зброяй, таксама. Проста і вы, і яны расчараваныя сваімі знаходкамі… Проста спыніўся гадзіннік.

Рэпарцёр машынальна глянуў на свой швейцарскі. Стрэлка лёгка бегла па секундных рысках.

Рэпарцёр глянуў ёй у вочы. Як ён гэтага не заўважыў?.. Не. Ён заўважыў. Ён проста не мог зразумець. Проста… проста іншая мова. Вядома, іншая. Ён шукаў. Ён бачыў тых, хто не заўважаў… Ён шукаў… і знайшоў.

Кола замкнулася, і ён раптам зразумеў, што казаў яму цыган у баснійскіх гарах, пра што маўчаў дзіўны стары на пляцы, што нягучна тлумачыў з экрана наглядчык вежавага гадзінніка. Цяпер ён ведаў дакладна.

Гадзіннік не павінен спыняцца. Ніколі.

За акном, абняўшы свае коміны, камінары звыкла спявалі Чароўную Мелодыю Часу.

*2000*

## СЛЕД

Па зямлі і моры імкліва слізгаў цень белага дэльтаплана. Дэльтаплан амаль вертыкальна стаў на крыло і, заклаўшы віраж, памкнуў насустрач зямлі. Унізе мільгацела «планета людзей».

Толькі ў небе, першы раз за час знаходжання на гэтай пыльнай выспе, чалавек дастаў таго, да чаго імкнуўся, — спакою. Спакою абсалютнага.

Палёт ратаваў, у паветры не была заўважнай спёка, не хрусцеў на зубах пыл. Толькі адна акалічнасць прымушала яго не выпасці са звыклае рэальнасці: палёт быў абмежаваны часам.

Недзе там, на беразе, на зямлі, сярод барханаў, хаваліся яго сляды. Чалавек прагнуў адшукаць, убачыць іх з вышыні.

Ён абышоў увесь гэты пустэльны бераг: пляжы, бары, начныя шоу, бардэлі, опійныя курыльні, спрабаваў чытаць сур'ёзныя кніжкі й бульварныя газеткі, заводзіць мімалётныя знаёмствы, але не знаходзіў нічога, апроч штодзённай, зацятай чалавечай штодзённасці.

Шалела спёка, як надоечы прачытаў ён у нейкім мясцовым часопісе, прычына амаль рытуальных у такі час самагубстваў. Асабліва сярод эмігрантаў. Вытрымліваць бязлітаснасць мясцовага сонца быў здольны далёка не кожны.

Чалавек ішоў па зямлі, час ад часу, намагаючыся вырвацца невядома куды, ён спрабаваў бегчы, пасля, задыханы, з роспачнай усмешкай на твары, спыняўся і зноў, цяжка ступаючы, крочыў уздоўж знаёмых бурых краявідаў.

Аплікацыя з пары струшчаных бляшанак з-пад піва, нераспакаваны пачак прэзерватываў ды забытая дзіцячая цацка на жоўтым пляжным пяску прымусіла яго сумна ўсміхнуцца.

Стомленую, злёгку вінаватую ўсмешку ён насіў тут, як таўро, не здольны дый не дужа прагны яе пазбыцца.

Чалавек зайшоў быў на адкрытую спартовую пляцоўку, дзе паўгадзіны, дасведчана й спрактыкавана, пад здзіўленымі позіркамі мінакоў, тузаў вялікі скураны баксёрскі мех завучанымі некалі да аўтаматызму серыямі ўдараў.

Снарад здушліва гакаў на кожны з акцэнтаваных кросаў і аперкотаў.

Сонца стала ў зеніце.

Зняўшы снарадныя пальчаткі, чалавек злавіў позірк трэнера, той весела ўсміхаўся і цягнуў угару вялікі палец.

Чалавек усміхнуўся ў адказ і, пераскочыўшы цераз паркан, што аддзяляў пляцоўку ад пляжа, памкнуў да мора.

Кроплі поту каціліся па лбе, твары, падбароддзі, крапалі на прамоклую майку і далей, на гарачы пясок, пераўтвараючыся ў шэрыя шарыкі. Чалавек азірнуўся, паглядзеў на пустую спартовую пляцоўку з самотнай фігурай трэнера, на толькі што пакінуты ім снарад, пасля на бессістэмную раскіданасць атрутна-ртутных шарыкаў свайго поту і падумаў, што калі б сабраць гэтыя шарыкі і правесці хімічны аналіз, то, відаць, можна было б вынайсці формулу шэрае прозы чалавечага існавання.

Нерухома лежачы на марской паверхні, чалавек разглядаў высокае сіняе неба, пакуль не заўважыў проста над сабой лёгкі абрыс дэльтаплана.

— Дэльтаплан, дэльфін, дасканаласць, далечыня, — па складах прамовіў ён уголас і падумаў, што добра было б апынуцца там, у вышыні. Цікава, ці заўважныя адтуль тыя здохлыя, скручаныя бляшанкі.

Ён павольна зрабіў у вадзе піруэт, перавярнуўся са спіны на грудзі і паплыў да берага.

З таго моманту ўвесь час, што меў, чалавек праводзіў у небе, пад белым крылом дэльтаплана. Датуль, пакуль пілот-інструктар, ладная, у светлым лётным шлеме, дзяўчына, не забараняла яму чарговы вылет: нельга парушаць інструкцыю: паміж палётамі мусіць быць хаця б нейкі перапынак.

Тады ён сядаў побач і неадрыўна назіраў за палётамі іншых.

Цягнік схаваўся за паваротам з пяць хвілін таму, а ён усё стаяў на пероне, ледзь заўважна гайдаючыся з пяткі на насок і назад. Кайстра з рэчамі не вытрывала і павольна завалілася на бок. Вакол праміналі рэдкія пасажыры і абслуга вакзала.

Чаму ён сышоў у гэтым мястэчку? Чалавеку не хацелася шукаць адказу.

Папросту была прыгожая летняя раніца і цягнік надакучыў сваімі канцэнтраванымі пахамі.

Да таго ж акуратненькі вакзальчык вабіў ранкавай сонечнай бесклапотнасцю й духмянай кавай.

Чалавек нахіліўся і падхапіў рэчы. Ногі ступалі па выкладзеным адмысловай кафляй пероне, выклікаючы спецыфічныя аб'ёмныя гукі.

Перон. Перон. Перон, — слова рэхам адбівалася ў свядомасці ў такт крокам і правакавала на незвычайныя, дзіўныя вобразы.

Карлас Перон. Эвіта Перон. Дыктатура. Экзальтацыя. Аргенцінскае танга. Танец вонкавых жарсцяў. Мелодыя падману.

Так, мелодыя падману амаль заўжды вабная, салодкая і яскравая.

Чалавек спыніўся, перад ім, замінаючы шлях, крыху нахіліўшы на бок лабатую галаву, шчэрыў пашчу вялікі срэбны сабака. Чалавек і сабака сустрэліся позіркамі, нельга было разабраць, усміхаецца пёс, ці, наадварот, злуе.

— Ты на варце ці чакаеш каго? — роспачна прамармытаў чалавек і азірнуўся навокал, шукаючы гаспадара сабакі. Гаспадара не было відаць.

«Што за парода? — падумаў чалавек. — Ваўчара, не раўнуючы». Пасля пацёр няголенай шчэццю аб плячо.

Срэбны пёс, нязвыкла для сабакі, не адводзіў вачэй, не віляў хвастом, не пераступаў з нагі на нагу. Але было ў ім штосьці больш адметнае, не ўласцівае сабаку, чым тое, на што ён звярнуў увагу раней. Чалавек зрабіў намаганне знайсці гэта нешта, але, адразу не здолеўшы, не стаў сябе мучыць працягам і, збочыўшы, ступіў пад брылёк вакзальнага шынка. Хацелася крыху пасядзець, проста пасядзець, забыўшыся на ўсё.

Праз нейкі час, запіваючы бутэр кавай з малаком, чалавек зноўку сустрэўся позіркам з сабакам. Другі бутэр з вяндлінай паляцеў у бок пса. Сабака па-ваўчынаму не варухнуўся.

— Даруй, я не хацеў фамільярнасці, — збянтэжана прамовіў чалавек.

Пасля заплюшчыў вочы, адкінуўся на спінку фатэля і заклаў рукі за галаву.

Наперадзе цэлы дзень, а ўвечары рэйсавым маршрутам самалёт панясе яго з гэтага амаль цацачнага мястэчка дадому.

Ён зразумеў, чаму выйшаў з цягніка: яму хацелася яшчэ раз падняцца ў неба.

Ён не паспеў, не здолеў знайсці сваіх слядоў на тым бурым беразе. Гэты аспект не тое каб надта назаляў яму, але… усё ж пакідаў пытанне. Яму дужа заманулася зноў адчуць удары ветру, рыпенне дэльтапланаўскага рыштунку і маўкліва сачыць за слізганнем свайго ценю па зямлі.

— Цень не пакідае следу, — прагучалая фраза прымусіла расплюшчыць вочы.

Чалавек апусціў рукі на столік і азірнуўся вакол. Побач нікога не было, апроч вялікага срэбнага пса з разумнымі сінімі вачыма.

Сабака з сінімі вачыма, — раптам зразумеў чалавек тое незвычайнае, што ён намагаўся адшукаць у абліччы гэтага пса раней. Пастава яго ўражвала. Загадкавы й недасяжны, як… як Мачу-Пікчу, — чамусьці прыйшло яму ў галаву.

Нейкі час чалавек і сабака вывучалі адзін аднаго. Нарэшце пёс лёг на нагрэтую сонцам падлогу. Адначасова чалавек падняўся з фатэля, закінуў кайстру за плечы і, задуменна азіраючыся на сабаку, пайшоў.

Стылёвы, лёгкі будынак вакзала і невялікі круглы пляц перад ім атачалі адна-двухпавярховыя дамкі. Былі відаць толькі іх рудыя дахі, усё астатняе хавалася за зялёнай заслонай прысадаў і палісаднікаў.

На брукаваным прывакзальным пляцы чакалі сваіх кліентаў смешныя барадатыя рамізнікі. Чалавек памкнуўся быў да іх, калі зноў заўважыў срэбнага сабаку. Той, трасянуўшы грывай, узвіўся дыба і пабег па адной з пяці вулак, што промнямі сыходзіліся да пляца.

— Куды пане-браце загадае? — рамізнік узяўся за лейцы.

— За тым срэбным ваўкалакам, — няўпэўнена ўсміхнуўшыся, адказаў чалавек і пацізнуў плячыма.

Рамізнік аніяк не выявіў здзіўлення й рушыў з месца.

Спачатку ён спрабаваў глядзець па баках, сачыць за бягучым наперадзе псом, колы каляскі меладычна бубнелі па бруку, час пачаў блытацца ў жоўта-зялёных тунэлях святла, і чалавек паляцеў па гэтых тунэлях, раскінуўшы рукі, як на дэльтаплане.

Калі ён расплюшчыў вочы, экіпаж стаяў каля ажурнай каванай агароджы. За агароджай у шахматным парадку былі расстаўленыя драўляныя альтанкі, пахла кавай, спецыямі й вугельчыкамі.

Насупраць, на гары, нібыта ў паветры лунаў палац са шматлікіх кветак і раслін, з вежамі, парталамі, амфітэатрамі, мастамі, спічастымі сценамі, гаўбцамі. Гэты дзівосны сад тэрасамі спадаў да маставой.

Вецер прымушаў контуры палаца рухацца і пераліавацца каляровымі хвалямі. Кожны сонечны прамень альбо кропля расы былі тут дарэчы.

Грымнуў гром, па альтанках забарабаніла летняя зліва. Сад змяніў колер, кветкі закрываліся ад непагадзі, на дол,

кружляючы па мудрагелістых траекторыях, злятала бясконцая безліч каляровага лісця.

Маставая пераўтварылася ў шматколерную імклівую рэчку.

Дождж аціх, з-за хмары выкаціла белае кола сонца, сад выбухнуў святлом. Чалавек прыкрыў вочы. Калі вочы крыху прызвычаіліся, пасярод саду ён заўважыў сутулаватую постаць садоўніка, з вялікім срэбным псом побач.

Гаспадар саду нахіляўся над кветкамі, парадкуючы клумбы й кусты. Кружлялі птушкі, асобныя з іх раз-пораз сядалі садоўніку на плечы, блыталіся ў сівых валасах. Той не зважаў на іх.

— Кажуць, ён разумее мову кветак, — заўважыў невядома як узніклы афіцыянт.

— Што-што? — чалавек не адразу паспеў зразумець, што звярталіся да яго.

— Прабачце, я вырашыў, што спадару цікава… Я кажу, гавораць, што садоўнік разумее мову кветак. Яны заўжды вырастаюць так, як ён сплануе. Сад квітнее амаль круглы год, аж да першага снегу.

— Як яго імя? — запытаў чалавек.

— Усе клічуць яго папросту Садоўнік. Дакладна пра яго ніхто нічога не ведае. Ні адкуль з’явіўся, ні чым займаўся. Адно толькі чуткі. Кажуць, такі ж сад ён даглядаў у іншым краі, але там людзі зайздросцілі, што ў іх не атрымліваецца такая дасканаласць. Іх зайздрасць шкодзіла ягоным кветкам, і аднойчы ўзімку ён сабраў свае пажыткі.

— А што ён робіць зімой?

— Зімовым часам садоўнік ачышчае дарожкі ад снегу, а ў вокнах яго садовага дамка ніколі не гасне святло.

— А сабака, той, срэбнае масці?

— То ягоны сабака.

Праз некаторы час чалавек выйшаў з альтанкі. Перайшоўшы каляровы, пасля дажджу брук маставой, ён спыніўся і трошкі пастаяў у нерашучасці, пасля ступіў на сцежку, што вяла да садоўніка.

Стары на каленях рыхліў зямлю вакол гладыёлусаў і нешта ціха спяваў. Мінула хвіля перад тым, як ён скончыў сваю песню, падняўся, абтрусіў цяпку ад зямлі і паклаў у кішэню лінялага сіняга камбінезона.

— Кажуць, каб стварыць такі сад, трэба ведаць мову кветак, — паспрабаваў чалавек пачаць размову.

— О-о-о, — уздыхнуў садоўнік у адказ. — Мову кветак трэба ведаць, каб выгадаваць нават адну кветку. Але, па праўдзе, рэч не ў мове кветак, рэч у мове людзей. Людзі забыліся не адно на мову кветак, але й на сваю.

Садоўнік вызваліў з сваіх валасоў птушку, нахіліўся, зрэзаў нажніцамі вялікі пухнаты рамонак і працягнуў яго чалавеку.

— Вазьміце. Штодзённа давайце яму свежай вады, пакуль ён не пусціць карэньчыкі, а тады перасадзіце ў грунт, і не забывайце паліваць. У вас будзе свая кветка. Чалавеку вельмі важна мець сваю кветку.

Далёка не новы аэраплан няспынна кідала то так, то гэтак па паветраных ямах. Тарахцелі маторы, пасажыры сядзелі з зялёнымі тварамі. Пабляклае сонца кацілася на захад.

Але чалавеку гэткія абставіны ніяк не псавалі настрой, бо на багажнай палічцы калыхаўся рамонак з саду.

З’явілася сцюардэса і папрасіла зашпіліць рамяні бяспекі. Самалёт пачаў манеўраваць і скідаць вышыню, рыхтуючыся да пасадкі.

Чалавек прыхіліўся да шкла ілюмінатара, на доле ззяў незлічонымі агнямі мегаполіс. Агні з’яўляліся то злева, то справа, пакуль раптам тымі агнямі горад не акрэсліў сваіх межаў, і самалёт пайшоў на пасадку. Нарэшце ўсім падзякавалі за палёт.

Калі чалавек сышоў па трапе на бетон аэрадрома, яму здалося, што ён стаў на палубу вялізнага карабля.

За акном таксі гучала музыка, некуды імкнуліся людзі, вішчэлі тармазы аўто. З-за аўтамабільнага шкла чалавек глядзеў, як імкліва змяняліся карціны вечаровага горада.

Таксі спынілася на чырвонае святло. Побач разліўся рэкламай MacDonalds — «Заўжды для вас. Танна й якасна».

Чалавек крануў рукой рамонкавыя пялёсткі.

Вуліцы, вітрыны, твары зліваліся ў адзіную бясконцую стужку. У нейкі момант ён падумаў: а ці існуе гэта ўсё насамрэч, ці мае гэтая рэальнасць аб'ём, магчыма, гэта проста экран, вялікі плоскі экран моднага кінатэатра.

Ён спыніў таксі, выйшаў, нырнуў пад неонавае святло і крануў рукой шурпатую сценку нейкага будынка. Яна была слізкая ад вільгаці.

Чалавек падняў галаву і прачытаў прымацаваную на будынку шыльду — акруговы суд. З-пад бліжэйшае сметніцы выбег пацук, на секунду спыніўся, напэўна вырашаючы, што рабіць, пасля, задраўшы нос, панюхаў паветра і спраўна пасакатаў далей, аж пакуль не знік у цемры пад сцяной акруговага суда.

Чалавек наблізіўся да таксафона, зняў слухаўку і сабраўся быў тэлефанаваць, але так і не набраў нумар. Трубка, пачакаўшы, запікала кароткімі гудкамі.

Са сцяны насупраць яркім сполахам ударыла па вачах рэклама начнога клуба «Барыкада». Ён уціснуў галаву ў плечы, спрабуючы схавацца ад рэкламнага святла.

— О, аматар кветак саспеў, — кампанія дзецюкоў абступіла яго паўколам. Бліжэйшы з іх, стрыжаны пад нуль, у фіялетавым камуфляжы, з выявай групы крыві й рэзус-фактару, выхапіў у чалавека перакінуты праз кайстру плашч з пакладзеным наверсе рамонкам, крутнуў яго ў паветры і кінуў на зямлю, а кветку з хрустам накруціў на пабіты драпінамі й татуіроўкай кулак.

Чалавек бачыў, як напружыліся белыя пялёсткі, як лопаецца скура кветкавай сцяблінь, як узніклыя трэшчыны брыньваюць празрыстай крывёй.

Ён назіраў, як істэрычна мяняе грымасы твар насупраць, як ненатуральна выпінаюцца вочы, нешта выкрыкваючы,

ламаюцца ў лініях вусны, з рота пырскамі разлятаецца сліна.

Чалавек згадаў сад, садоўніка, прыемны пах кавы.

Далей чалавек назіраў усё нібыта з боку.

Ягонае цела дзеяла асобна ад яго, па калісьці зададзенай і дасканала засвоенай праграме, уразіўшы яго самога абсалютнай дакладнасцю і своеасаблівай прыгажосцю рухаў.

Чалавек ухіліўся ад кінутага яму ў твар кулака, у адказ пачаргова, каротка й суха, торкнуў у жывот і падбароддзе «камуфляжа».

«Камуфляж» склаўся напалам, на імгненне застыў, упаў на азадак і, скруціўшыся ў клубок, задрыгаў нагамі. Пасля марудна, трымаючыся за глебу, стаў на калені, упёршыся лбом у глебу. Астатнія «камуфляжы» ўражана знерухомелі.

Скручаны рамонак ляжаў непадалёк на асфальце.

Па маставой праплыў хлебны фургон, чалавек — нават паспеў заўважыць літары на нумары — BEL і малюнак прыгожага барвовага бохана на белым кунгу машыны.

Ён падняў скамечаную кветку, свой забруджаны плашч і, не азіраючыся пайшоў. Ён ішоў і глядзеў на сваю параненую кветку. У сярэдзіне шыпела халодная хваля скрухі, раз’юшанасці, агіды.

Калі чалавек выйшаў з-пад аркі, што вяла ў двор яго дома, наўпрост перад ім сядзеў сабака, вялікі срэбны Мачу-Пікчу.

Ад нечаканае сустрэчы чалавек спыніўся і зрабіў крок назад.

Пёс трасянуў срэбнай поўсцю й бліснуў сінімі вачыма, так што чалавеку прыйшлося прыкрыць свае даланёй, згадаўшы сад, садоўніка і ягоныя словы: кожнаму важна мець сваю кветку.

Чалавек падняўся на свой паверх, выйшаў на гаўбец і з вышыні глянуў на начныя агні.

Да самага ранку ён лекаваў сваю кветку. Палівау вадой, перавязваў раны, на зломы накладаў шынкі з запалак.

Калі пачало ўзыходзіць сонца, ён паглядзеў у акно на новы дзень, паставіў сваю кветку ў гліняную вазу са свежай вадой, разабраў пасцель, усміхнуўся й лёгка заснуў.

Чалавеку сніўся белы дэльтаплан у сінім небе, унізе, на зямлі, быў выразна відаць яго след.

*2001*

# ДЗЯЎЧЫНКА ПА ІМЕНІ ЛЕНА

У дзень 19 жніўня 1991 года а 12-й я меўся вылятаць у Крым да маіх прыяцеляў па інстытуце фізкультуры, што працавалі фізрукамі і важатымі ў лагеры «Чайка», які месціўся пад Фаросам у цудоўнай бухце на самым беразе Чорнага мора.

Я любіў Крым, Чорнае мора і лета, але адна важная акалічнасць гнала мяне туды як найхутчэй з яшчэ большым імпэтам. Там я спадзяваўся ўбачыць дзяўчынку па імені Лена. Гэтая дзяўчынка Лена была асаблівая дзяўчынка. У яе было незвычайнае спалучэнне блакітнага і жоўтага ў вясёлкавай абалонцы адной са зрэнак. Яшчэ яна была майстрам спорту па мастацкай гімнастыцы. І наогул, Лена мне вельмі падабалася.

Мне здавалася, што я Лене быў таксама неабыякавы. Сустрэча, якая мела адбыцца, моцна натхняла і магла стацца, як я адчуваў, для нас вызначальнай.

Ранкам я забег на Беларускае тэлебачанне, дзе працаваў у спартовай рэдакцыі, каб падпісаць нейкую патрэбную паперу.

На ўваходзе каля турнікета стаяў звычайна вясёлы, але сёння нахохлены міліцыянт Сцяпан, чамусьці ў касцы і з аўтаматам Калашнікава на плячы.

— Добры дзень! — усміхнуўся я, гледзячы на ягоны нязграбны выгляд з каскай, насунутай на лоб, і разважаючы, якога ражна ён такі ўзброены.

Сцяпан хітнуў галавой, ад чаго ягоная каска ледзь не закрыла яму вочы, але нічога не адказаў. Заміж яго спартовы каментатар Сяргей Новікаў, які таксама стаяў каля турнікета, пахмурна заўважыў:

— Добры, калі, вядома, лічыць, што гэты дзень — добры.

Я пакруціў вачыма, адчуўшы нейкую недагаворанасць і трывогу ў атмасферы, але так нічога і не зразумеў.

Папярэднія вечар і ноч выдаліся для мяне насычанымі. Я святкаваў пачатак адпачынку ў вясёлай кампаніі і таму зранку не ўключаў тэлевізара, не слухаў радыё і нават не паспеў купіць ніякае газеты. «Лебядзінае возера» я заўважыў, толькі калі зірнуў на экран тэлевізара ў фае БТ.

Пра путч я даведаўся ўжо ў аэрапорце, калі стаяў у чарзе на рэгістрацыю сярод пасажыраў рэйса Менск—Сімферопаль. Твары пасажыраў мелі выгляд незвычайна ўзрушаны й трывожны. Трывога гэтая адбівалася ў абліччах, адчувалася ў фразах і рухах людзей і ў часе палёту.

Па прылёце пачаліся прыгоды. Мне прыйшлося, як дыверсанту, прабірацца ў летнік праз ядлаўцовы гай уздоўж берага, бо на шашы, што вяла да яго, стаяў міліцэйскі пост і нікога не прапускаў, таму што па гэтай дарозе можна было дабрацца не толькі да «Чайкі», але і да рэзідэнцыі заблакаванага Гарбачова.

Я цягнуўся, потны і абадраны, праз калючкі і скалы да пункта свайго прызначэння, кожнага разу чакаючы вокрыку людзей у камуфляжы. Нарэшце, спусціўшыся з гаю на бераг летніка, першым са знаёмцаў я ўбачыў Воўку-цяжа. Ён веславаў да берага ў шлюпе, але выгляд меў спалоханы і напружаны.

Пасля інстытута Воўка паспеў уладкавацца ў АМАП ці то трэнерам, ці то звычайным байцом, але ўлетку па завядзёнцы прыехаў адпачыць ад службы, на месяц-другі ператварыўшыся ў фізрука.

— Па бычкі хадзіў? — спытаў я.

— Якія бычкі, ты што, не ў тэме, што адбываецца? — пытаннем на пытанне адказаў Воўка.

Аказалася, што Воўка ўзяў з сабой у летнік амапаўскі рыштунак — кайданкі і дубінку. Насіў іх з сабою на поясе, суворым выглядам палохаючы піянераў. Але, калі даведаўся пра путч, паніка агарнула ягонае вялікае амонаўскае цела.

Яму мроіўся ўсюдыісны КДБ — змрочныя людзі ў цывільным, якія пытаюцца ў яго рыпучымі кашчэевымі галасамі:

— А нашто табе, чалавеча, у піянерскім летніку амапаўскія прычындалы, га?

Такія псіхалагічныя пакуты амапаўцу-фізруку трываць было невыносна, таму пры першай магчымасці Воўка забраўся ў шлюп, налёг на вёслы, адышоў ад берага метраў дзвесце, прывязаў у якасці грузу да сваёй дубінкі металічныя кайданкі і кінуў іх у пеністыя хвалі Чорнага мора.

Пасля прыяцелі пад'юджвалі Воўку-амапаўца злымі пытаннямі: маўляў, таварыш амапавец, а вашу дубінку не Муму звалі?

Воўка моршчыў баксёрскі лоб і раздражнёна маўчаў, але з таго часу да яго прырасла мянушка — Герасім.

Вечарам разам з Ленай і іншымі маімі прыяцелямі мы ўглядаліся ў сілуэты вайсковых караблёў, што атачылі па перыметры акваторыю фароскай рэзідэнцыі Гарбачова, якая знаходзілася за нейкія пятнаццаць-дваццаць кіламетраў далей за нашу «Чайку», а пазней па тэлевізары неадрыўна сачылі за вядомай прэс-канферэнцыяй, дзе хлюпаў носам і не мог стрымаць дрыжанне рук галоўны путчыст Янаеў; следам глядзелі рэпартаж пра тое, як у Маскве людзі збіраюцца бараніць сваю свабоду. Мяне распірала энергія, хацелася дзейнічаць, нешта рабіць, кудысьці бегчы.

«Наступнага ранку я маю быць у аэрапорце, каб ляцець у Маскву на дапамогу абаронцам Белага дома. Крымскі адпачынак пачакае. Да Лены прыеду пасля», — так я пастанавіў сабе, гледзячы навіны пра маскоўскія падзеі.

Але пакуль тое, настаў вечар, і на танцавальнай пляцоўцы загучала музыка. Было цёпла, з цёмнага крымскага неба свяцілі срэбныя зоркі. Я танчыў з Ленай, найлепшай дзяўчынкай у свеце, пад тужлівую песню Ігара Талькова пра летні дождж. Танец быў абвешчаны апошнім. Мы танчылі. Я абдымаў Лену. Унутры тухкала. Тук-тук-тук. Лена, адхіліўшыся, час ад часу глядзела мне ў вочы. Яе валасы пахлі морам.

Бываюць такія моманты ў жыцці, такія вызначальныя моманты, калі ты разумееш: цяпер або ніколі.

«Але я ж заўтра з'язджаю. Няправільна неяк — прызнацца і ўцячы», — напружана вагаўся я ў сваіх думках.

Мы танчылі. Я ніяк не мог наважыцца выбраць паміж каханнем і змаганнем, як раптам музыка скончылася.

«Несвоевременность — вечная драма, где есть он и она», — прагучалі заключныя словы песні…

Так скончыўся для мяне дзень 19 жніўня 1991 года.

Ранкам 20 жніўня ў аэрапорце Сімферопаля квіткоў да Масквы не было і не мелася быць. З гарадоў на літару «М» квіткі былі толькі на рэйс да Магадана.

«У Магадан пакуль рана», — падумалася мне.

— У Магадан за казённы кошт возяць, — нібыта падслухаўшы мае думкі, пасміхнуўся нейкі барадаты джыгіт.

Ва ўсялякі спосаб спрабуючы дастаць квіток да Масквы, я некалькі гадзін нервова і бясплённа соўгаўся туды-сюды па аэрапорце. Але паўсюль мяне гнала няўдача.

«Ні прызнання ў “Чайцы”, ні змагання ў Маскве», — злаваў я сам сабе.

Зусім змрочны выйшаўшы з будынка аэрапорта, я дастаў цыгарэту і паспрабаваў яе прыкурыць. Чамусьці пастаянна гасла запалка. У рэшце рэшт з так і не прыкуранай цыгарэтай я вярнуўся на вакзальны прыпынак. Да адпраўлення аўтобуса Сімферопаль—Фарос заставалася некалькі хвілін.

Неўзабаве пад’ехаў рэйсавы бусік, чарга рванула да адчыненых дзвярэй, людзі спрытна займалі месцы, падалі нейкія сумкі, з іх высыпаліся рэчы, дзесьці заплакала дзіця.

Я стаяў, мяў у руцэ тую непрыкураную цыгарэту, глядзеў на мітуслівых пасажыраў, на тое, як з выхлапной трубы адно за адным выскокваюць кольцы шызай смугі, як вецер падбірае і круціць у паветры таполевы пух, і раптам ясна зразумеў, што ўчора ўвечары на той танцавальнай пляцоўцы канчаткова спазніўся на гэты зваротны рэйс.

Бусік зачыніў дзверы і, натужна захрыпеўшы, павольна рушыў у напрамку Фароса без мяне.

Усярэдзіне нешта перасмыкнула і адарвалася, як адрывае вецер нітку паветранага шарыка, накручаную на пальцы. Роспачны, я сеў на лаўку пад высокай сімферопальскай таполяй і ўрэшце здолеў прыкурыць цыгарэту. Спачатку адну, пасля другую, за ёй трэцюю.

Бязлітасна паліла крымскае сонца.

— Што сумуем? — інстытуцкі прыяцель баскетбаліст Саша крануў мяне за плячо, зірнуўшы з вышыні амаль двух метраў на мой здзьмуты выгляд. Я пачаў нешта блытана і няўцямна прыдумляць. Хутчэй адчуўшы, чым зразумеўшы мой стан, ён амаль скамандаваў падымацца і ехаць разам з ім у «Артэк», дзе Саша атабарыўся, таксама ў якасці фізрука.

— Давай, давай, стары. Тут нічога не выседзіш, — прыспешваў Саша. Я выдыхнуў, падняўся і, падхапіўшы пляцак, пасунуўся следам за ім.

Месяц у «Артэку» стаўся імклівым, незразумелым, шалёным палётам. Іншай рэальнасцю.

Ніякіх навінаў, ніякіх путчаў, ніякіх змаганняў.

Крымскае віно, нягледзячы ні на якія сухія законы таго часу.

Група маладых грэцкіх камуністаў, з якімі мы шторанку, не астыўшы ад учора-звячора, танчылі «Сіртакі» на даху нашага жылога корпуса.

Дэлегацыя фінскіх прафсаюзаў на чале з былым чэмпіёнам Еўропы ў плаванні Юсі, якога цвярозым я бачыў толькі ў дзень ад’езду.

Ягоная каляжанка Тулікі, прыязная фінская пані, якая «зняла скальпы» з усіх беларускіх фізрукоў дружыны «Марская» і ўсіх беларускіх прыяцеляў тых фізрукоў.

Начальнік летніка Валерый Іванавіч, далікатны чалавек, які вельмі шанаваў беларускую нардычнасць, вытрыманасць і абавязковасць, часам закрываючы вочы на невялікія парушэнні рэжыму

Незнарок пакрыўджаная мной важатая Ліда — моцна скроеная тамбоўская настаўніца, са сваім недарэчным і зусім нечаканым пытаннем-просьбай:

— Алег, можна, я вас пацалую?

Якая, не чакаючы адказу, навалілася і ледзь не прыдушыла мяне, распешчанага крымскім сонцам і віном, уціснуўшы сваім аб’ёмным чыгунным бюстам у цёплую пляжную гальку.

Я ўсё ж выжыў пасля таго зверскага пацалунку і зарагатаў, як вар’ят.

І надалей з усё большай хуткасцю нейкія несупынныя дні народзінаў, гітары, пляжы, танцы, любошчы, футболы-баскетболы, горы і мора…

Я ляцеў у гэтым шалёным артэкаўскім палёце, у тым фантасмагарычным куражы і ўнутрана разумеў, што гэты шалёны палёт ёсць нейкай кампенсацыяй, забыццём, адхланнем за маю парваную струну, за мой незваротна страчаны вечар 19 жніўня 1991 года.

Я вярнуўся ў Менск 19 верасня, роўна праз месяц пасля спробы путчу. Я вярнуўся зусім спустошаны, прыціхлы, раскіданы. Я вярнуўся ў зусім іншую краіну, дзе вакол падзеі віравалі і мяняліся, як у калейдаскопе. Дзе было неверагодна цікава жыць. Дзе бруіла такая энергія, адкрываліся такія далягляды, што займала дух. Але ні ў адным з гэтых новых даляглядаў, як я ні ўзіраўся, я не знаходзіў дзяўчынкі па імені Лена, найлепшай дзяўчынкі ў свеце з незвычайным спалучэннем колераў вачэй.

*2016*

# СЛУЖЫЛІ ДВА ТАВАРЫШЫ

Гэтая гісторыя здарылася ў Віцебску гадоў пятнаццаць таму. Я стаяў на мосце цераз Дзвіну каля Коласаўскага тэатра і глядзеў, як пад ім, са скрыгатам наязджаючы адна на адну, магутным поступам рушаць крыгі. Свяціла сонца, быў пачатак красавіка. Неўзабаве побач спыніўся чалавек.

— Пацанамі мы каталіся на крыгах, толькі не па Дзвіне, а па Дняпры. Я аршанскі. Саскоквалі на бліжэйшую да берага вялікую крыгу і ішлі на ёй да нейкага зручнага месца, каб там зноў саскочыць на бераг. Лічылася вялікім шыкам так праехаць.

— Небяспечна, — прамовіў я.

— Бывала, пажарныя здымалі, бывала, і танулі, — адказаў чалавек. — Дурная забава, але ж пацаны. Кроў гуляе, кайф, адрэналін, аўтарытэт.

— Такая моц не тое што чалавека — бывае, масты трушчыць, як кардонкі, — заўважыў я.

— Чалавек, бывае, таксама масты трушчыць. Я, прынамсі, у сваім жыцці натрушчыў, — выдыхнуў ён.

— Вайсковец?

— Але… Пэўным чынам…

— Віцебская мабільная брыгада?

— Не, — усміхнуўся чалавек.

Высветлілася, што імя яго Віктар, што ён прыехаў з Оршы да вайсковага сябра, з якім служыў у васьмідзясятых пад Астраханню, не бачыліся шмат гадоў. Цяпер кіруецца, як і я, да вакзала. Едзем мы на адным цягніку, і ў нас ёсць жаданне і трошкі часу, каб па дарозе завітаць у краму ды набыць неабходнае для няспешнай размовы двух выпадко-

вых спадарожнікаў, аднаму з якіх неабходна выгаварыцца, а іншы гатовы слухаць.

У цягніку Віктар папрасіў у правадніцы дзве шклянкі, зачыніў дзверы купэ і адкаркаваў пляшку.

— 1993 год. Растоў. Я яго не адразу пазнаў у тым кафэ пры аэрапорце. Вясна, як зараз. Цёпла толькі. Віно чырвонае. Сядзіць у камуфляжы, на мяне глядзіць і ўсміхаецца. Пасля дзембеля гадоў сем-восем мінула. Ён быў снайперам, снайперы збольшага флегмы. Я да яго першым кінуўся абдымацца.

— Саныч, — крычу, — ты?!

А ён мне:

— Пяцёрачка, трэба ж, дзе перасякліся!

У яго мянушка Саныч была, бо Аляксандр Аляксандравіч Александровіч. У мяне — Пяцёрачка, бо пятая ДРГ (дыверсійна-разведвальная група), пяты нумар разліку, і, калі падрыў добра выходзіў на вучэннях, я любіў казаць: «На пяцёрачку атрымалася».

Наш дывізіён глыбіннай разведкі сярод стэпу стаяў, толькі стэп і бахча побач. Ганялі нас няшчадна, калі не было вучэнняў, на варту ў каравул. Я падрыўніком, ён снайпер, але ў іншай ДРГ. Трымаліся мы разам, бо землякі былі.

Паўзгадвалі ў той кавярні войска, як ад «дзядоў» адбіваліся спіна да спіны, як прыкрывалі адзін аднаго, калі хто трапляў у сітуацыю, як спірт тырылі медыцынскі і ў кавунах хавалі на бахчы. Выразалі сярэдзіну ў кавуне і залівалі туды. Так да дзембеля нас і не злавілі ні разу…

Калі высветлілася, што я на рэйс да Ерэвана, а ён да Баку, мы зразумелі ўсё без слоў.

Пасля войска неяк згубіліся-разышліся, але падобнымі шляхамі крочылі. І ў яго, і ў мяне няўдалы шлюб, дзеці, беспрацоўе, распад Саюза і наш прапар Тарчкоў, па мянушцы Тарчок. Інструктар па баявой. Менеджар, бл…дзь… Па розныя бакі нас падпісаў. Мяне за армян, яго за азераў. Ён страляў, я ўзрываў…

Свяціла сонца, мы выпівалі і гаварылі. Пра гэтую не нашу вайну, якая стала абсалютна нашай. Аказалася, што дзейнічалі мы амаль на адным і тым жа ўчастку фронту. Ве-

далі прозвішчы і пазыўныя камандзіраў, аперацыі, у якіх удзельнічалі, дзяліліся ўражаннямі пра вайсковы быт, жахі, атмасферу. Параўноўвалі. Сышліся на тым, што не дай Бог у нас…

Ён першы ляцеў — на паўгадзіны, але раней. Калі рэйс на вылет абвясцілі, мы абняліся, і ён кажа:

— Пяцёрачка, калі ўбачу цябе ў прыцэл, то жывы будзеш. Не стрэльну.

А я яму ў адказ: маўляў, Саныч, ты ж ведаеш маю спецыялізацыю, я табе такога не магу паабяцаць… Пацiснулі рукі і разышліся — пайшлі, як тыя крыгі, кожны да свайго берага…

Я ваяваў яшчэ прыкладна з паўгода. Мініраваў і ўзрываў, узрываў і мініраваў. Перавалы, скалы, бліндажы, масты… Аднаго разу паведамілі, што на мосце, дзе я працаваў, ледзь не рота правалілася іхняя, і я адразу Саныча згадаў, каб толькі не ён там праваліўся… Пасля раненне. Выбухнуў запал ад міны. Руку пакалечыла, косткі збіралі, пальцы прышывалі. Але сабралі і прышылі, дзякуй Богу.

Восень, ляжу ў шпіталі на выпіску ўжо, думаю, што далей рабіць — падпісвацца яшчэ ці не? Я да таго часу з перапынкамі каля года там адбыў… А тут раптам па тэлевізары навіны з Югаславіі былой паказваюць, як падарвалі стары мост у Мостары… Горад такі ў Босніі. Як зараз памятаю, дзявятага лістапада. Гляджу, як пайшла дымам прыгажосць такая, што стаяла чатыры стагоддзі, і думаю сабе: «Якое халеры?..» І такі сум мяне ўзяў, нібы я гэты мост знішчыў. І Саныч перад вачыма… Карацей, паставіў я кропку ў гэтай вайне сваёй.

Дадому прыехаў, пакуль тое-сёе, аклямаўся трошкі… На будоўлю ў Маскву пару-тройку разоў з'ездзіў, грошай падзарабіў… Але аднойчы неяк не спіцца ўначы, выйшаў у двор, гляджу на неба — то хмары, то зоркі, і раптам зноў пра Саныча… Цягне мяне гэта… Няяснасць. Невядомасць. З таго часу шукаю. У Віцебск во прыехаў, бо адрас далі, дзе нібыта ён мог бы быць… Але не знайшоў пакуль… Не знайшоў… А ты як думаеш, знайду?

*2016*

## КАТАРЫНА-ДЖАЗ

Не памятаю, калі першы раз яе ўбачыў — ці то на джазфэсце, ці то ў нейкай багемнай кампаніі, ці то падчас запісу на тэлевізіі, дзе тады працаваў.

Але дакладна памятаю сваё надзвычайнае ўражанне: яна спявала свой джаз зусім непадобна да іншых, пачынаючы ад голасу і сканчаючы манерай. Дый знешне яна была зусім не джазавая дзіва.

Стаяла каля мікрафона такая тоненькая, светлая. І каса за спінай — доўгая, тоўстая, тугая каса. Дзе вы бачылі джазавую спявачку з касой?

Мы і не знаёміліся, так неяк само склалася. Да яе музыкі папросту магнітам цягнула. Тэксты найлепшых паэтаў, файная аранжыроўка, адметнае выкананне. І харызма.

Яна выйгравала ўсе айчынныя джазавыя конкурсы, якія на той час праводзіліся, таму ў дадатак да свайго ўласнага імя — Катарына — у асяродку аматараў джаза заслужыла адпаведнае музычнае дапасаванне — Катарына-джаз, альбо джаз-Катарына. Гэты дадатак ёй пасаваў. Народ, даючы камусьці свае імёны, звычайна не памыляецца.

Былі вясёлыя часы, край жыў абсалютнай імправізацыяй, джаз гучаў з усіх бакоў. З дзяржаўных устаноў, канцэртных пляцовак, тэлевізійных экранаў, дваровых альтанак, падземных пераходаў. І Катарына была яго неад’емнай часткай. Яго Каралевай.

Карацей, як той казаў, быў дзень, быў джаз, была эпоха.

Але аднойчы раптам усё памянялася. Край наш захапілі змрочныя готы. Як гэта здарылася, ніхто толкам не даў рады зразумець, але амаль у адначассе атмасферу джаза, дзе панавала свабода, творчасць і весялосць, змяніла атмасфе-

ра змрочнае готыкі. У змрочных готаў была свая музыка, свае густы, свае выканаўцы.

Імправізацыя была абвешчана амаль злачынствам, джазавых канцэртаў усё менела. Пасля з'явіліся чорныя спісы джазменаў, якіх няможна было запрашаць на канцэрты, святочныя імпрэзы, музычныя пляцоўкі. Нават слова «джаз» трапіла амаль пад забарону. Музыкі пачалі хто з'язджаць з краіны, хто мяняць прафесію, хто сыходзіць у глыбокі творчы андэграўнд.

Неяк на адным з апошніх джазавых вечароў Катарыны ў клубе «Каза» нейкі гот-ахоўнік схапіў дзвюх дзяўчатак, што падняліся былі патанчыць пад лёгкую, узнёслую джазавую кампазіцыю, і павалок-пацягнуў іх прэч з залы. Катарына так рыкнула ў мікрафон, што гот-ахоўнік зніякавеў, выпусціў дзяўчат са сваіх клешняў і выскачыў з залы сам.

Той канцэрт скончыўся фантастычнай, шматслойнай, драйвовай імправізацыяй. Зала поўнілася энергіяй высокае творчасці, і напрыканцы заўзятары музыкі вольных вынеслі Катарыну-джаз са сцэны ледзь не на руках, але яна, як мудры творца, зразумела час наперад і неўзабаве распусціла свой бэнд.

Іншыя джазмены спрабавалі неяк існаваць, але плёну было мала. Канцэрты то дазваляліся, то не. Калі дазваляліся, то асобным пунктам у дамове стаяла адмова ад імправізацыі. Але што за джаз без імправізацыі?..

Катарыны гэта не тычылася, яе канцэртаў не дазвалялі зусім. Зусім. Так цягнулася доўгі-доўгі час.

Пакуль у змрочных готаў не надарыўся крызіс, іхнюю музыку перасталі слухаць. Што яны ні рабілі, плёну не было. Ні прымус, ні ласкавыя запрашэнні з рознымі дывідэндамі і прынадамі не здольныя былі напоўніць залы гледачамі, і тады яны нібыта абвясцілі джазу амністыю і паклікалі джазменаў у высокія кабінеты на перамовы. Джазмены схапілі свае кантрабасы, флейты, саксафоны і, сабраўшыся, напружана вырашалі, ісці або не. Урэшце пастанавілі ісці.

Шмат хто з іх пасля вельмі шкадаваў пра такі крок, бо нічога добрага з гэтага не выйшла і выйсці не магло, апрача

расчаравання і прыкрасці. Сапраўды, як могуць існаваць побач джаз і змрочныя готы, воля і няволя?

Лішне казаць, што джаз-Катарыне змрочныя готы нават не прапаноўвалі тых перамоў, бо ведалі каралеўскі адказ наперад.

Ішлі гады, на джаз сталі забывацца, знікалі мелодыі вольнай прасторы і ў маёй галаве. Толькі рэдка калі з якога аўто пачуўшы: «Не, гэта не смерць, вочы твае за шклом, у залатой смузе, я ў іх тану-тану…», — я тужліва згадваў час вясёлых імправізацый.

Але ўсё цячэ, усё змяняецца. Відаць, чуць музыку волі — звычайная людская патрэба. Каля сталічнай ратушы спачатку цішком, але далей усё смялей пачалі абвяшчацца і ладзіцца джазавыя вечары. Патроху вяртаецца атмасфера.

Навучаны не лепшым досведам, я не дужа верыў у гэтыя спробы вярнуць вольную музыку ў нашу прастору, пакуль не ўбачыў на рэкламнай тумбе шматколерны плакат, дзе паведамлялася пра яе канцэрт. Я аж замружыў вочы, але, адкрыўшы іх, зноў убачыў перад сабой густоўна зробленую афішу. Так, Катарына-джаз. Заўтра. У Верхнім горадзе.

Ажно не верыцца. Каля сталічнай ратушы будзе гучаць той самы вольны джаз, тыя самыя хіты: «Я хацела парушыць звычайны парадак…», «Мне на сэрцы золатам вышывалі краты…», «Мая краіна пад белым сцягам…».

Можа, і сапраўды нешта хруснула ў гэтым змрочным царстве змрочных готаў…

*2016*

## БЛЕДНАЯ МЕСЯЦОВАЯ ЗДАНЬ

Як зазвычай склалася ў апошнія гады, 3 ліпеня мы ехалі на хутар майго сябра пад Браслаў. Цішыня, прырода, вогнішча. Трэцяга ліпеня — ягоны дзень нараджэння, які прыпадаў на наваствоіранае дзяржаўнае свята — Дзень Незалежнасці.

Вечарам альбо ўначы пасля паходу на возера, лежачы ў гамаках на двары, мы пілі віно, глядзелі ў зорнае неба і разважалі пра жыццё.

Мы глядзелі ў неба і разважалі пра тое, што ў нас сапраўдны Дзень вызвалення, бо мы вызваляліся ад мітусні тэлевізійнай карцінкі, бразгату танкавых тракаў на пацешных парадах з аперэтачнымі фуражкамі на галовах, дурнаватых канцэртаў, п'яных грамадзянаў і невыноснага паху мачы ля кожнае сметніцы ў цэнтры.

Мы пілі чырвонае віно і пакеплівалі з гэтага новаабвешчанага незразумелага свята без аніякай жывой энергіі, без уцямнага абгрунтавання і радаснага настрою.

Так, нам было радасна, што мы мелі ў гэты дзень сваё невялікае, але сапраўднае свята.

Мы падымалі тосты за здароўе майго сябра, за гэты фантастычны край, за хутар на беразе возера, за зорнае неба і шмат яшчэ за што. Так было.

Але аднойчы, прыехаўшы на хутар і выправіўшыся на возера, мы перастрэліся з мясцовымі рыбакамі, якія паміж тым, што цягнулі невад да свайго баркаса, распавялі нам легенду гэтых мясцін пра нейкую белую жанчыну.

Нібыта не жанчына гэта, а бледная месяцовая здань, што выходзіць пасля заходу сонца і выцягвае ўсю жыццятворную, жыццядайную энергію з тых, да каго прабярэцца на

падворак, пагатоў у хату. Сустрэць яе лічылася нядобрым знакам, а пусціць у хату — знакам бяды.

— Глядзіце, хлопцы. Будзьце пільнымі, — папярэдзілі нас рыбакі перад расстаннем.

Вяртаючыся на хутар, мы смяяліся з гэтага падання. Вечарам, седзячы за святочным сталом на падворку, мы пілі віно і спявалі народныя песні, зусім забыўшыся на гэтую гісторыю. Як раптам да брамы падышла бландзінка і папрасіла дазволу ўвайсці.

Радасны гаспадар запрасіў яе да стала. Жанчына была засмучаная, сказала, што яе пабіў муж, і папрасіла вады. У яе былі даўгія попельныя валасы, вадзяністыя празрыстыя вочы і бледны твар. Сябра рушыў у хату, каб прынесці крэсла для госці, але бландзінка нечакана рушыла за ім. Яна ўжо была занесла нагу над парогам, як з дома выскачыў наш чорны кот Коба і, адчайна равучы, літаральна кінуўся на яе занесеную над парогам нагу ў фіялетавым гумовым боце.

На імгненне мы з сябрам здранцвелі, але жанчына з імпэтам паўтарыла спробу ўвайсці ў хату. Калі яна паспрабавала адпіхнуць і скінуць з парога Кобу, нарэшце нашае здранцвенне скончылася, і я выгукнуў сябру:

— Бледная здань!

Той паспеў зачыніць дзверы перад самым яе тварам. Яе вочы заззялі халодным бляскам, яна заякатала і пачала прагна біцца ў дзверы. На нашых тварах выступіў халодны пот, сябра схапіў яе за руку, каб адцягнуць ад дзвярэй. Яна лёгка выслізнула і адбегла з-пад брылька над парогам пад месяцовае святло. Пасля, губляючы свае абрысы, пачала імкліва раставаць у тумане. Калі мы падбеглі бліжэй, белай жанчыны нідзе не было, толькі пад паветку шмыгнула, ратуючыся ад пераследу нашага ката, шэрая крыса. Я выразна зразумеў, што гэта была крыса, а не свойскі пацук.

— Ведаеш, рука такая халодная-халодная… — ледзьве здолеў прамовіць сябра.

Заснулі мы, толькі калі паказаліся першыя промні сонца.

На наступны дзень мы доўга не маглі згадаць усіх фрагментаў начнога здарэння. Галава была цяжкая, на душы трывожна, ні пітво, ні ежа ў горла не лезлі.

Непрыемнасці пачаліся неўзабаве. На возеры я згубіў заручальны пярсцёнак. Шукаючы яго пад вадой, я толькі і паспеў заўважыць вялікі, доўгі голы хвост нейкай істоты, надта падобнай да той самай крысы.

Сябра прынёс на сабе некалькі кляшчоў.

Збіраліся дадому мы без настрою, прадчуваючы, што чакаюць нас нялёгкія часы. А калі вырушылі, па дарозе сустрэлі тых самых рыбакоў і распавялі ім усё, што з намі здарылася.

— Патрапілі вы ў пастку. Трывайце, хлопцы, будзе цяжка, — зазначылі рыбакі. — Але памятайце: добра, што ў хату вы яе не пусцілі.

Праз нейкі час па вяртанні я зразумеў, што заручальны пярсцёнак быў згублены не проста так.

У сябра было сваё няшчасце. У ягоны бізнес усмакталіся кляшчы, значна большыя за тых, браслаўскіх. Яны прагна пілі ягоную кроў, і ў няроўнай бітве ён вымушаны быў адступіць.

Час бяжыць хуткаплынна, з тае пары мы ўсё ніяк не здолеем сабрацца і разам паехаць на ягоны хутар, каб падыхаць вольным паветрам, паглядзець у зорнае неба.

Сёлета трэцяга ліпеня, на ягоны дзень народзінаў, я сустрэў яго ў задушным, запеклым горадзе пад скрыгатанне танкавых тракаў, шалёныя гукі вайсковых аркестраў і выбухі начных салютаў.

«Патрапілі вы ў пастку. Трывайце, хлопцы, будзе цяжка», — згадваю я раз-пораз словы браслаўскіх рыбакоў.

Мы трываем. Колькі яшчэ нам трываць — невядома. Але цешыць адно, што ў хату тую бледную здань мы ўсё ж не пусцілі.

*2016*

# НАВАГОДНІ БЛЮЗ

— Рабо-о-отаць! Рабо-о-отаць! Канцо-о-овачка! — голас трэнера быў гучным, бадзёрым і радасным. За акном свяціла сонца, быў казачны, марозны пераднавагодні дзень, а мы з усяе моцы, на сярэдняй адлегласці, серыйна лупасілі мяшкі ў зале бокса, дзе падвышалі ўзровень хуткаснай цягавітасці на апошняй трэніроўцы сезона — 31 снежня 1983 года.

Трэнер прыдумаў пераднавагоднюю трэніроўку ў якасці пакарання — таму што мы, паводле ягоных слоў, «цынічна не ўдзельнічалі» ў важным лыжным кросе, які быў прымеркаваны да нейкай не менш важнай даты.

Нашы вочы заліваў пот, сэрца калацілася, трэніровачная вопратка была наскрозь мокрай, а мы ўсё дзяўблі даўгімі і ўжо не надта рэзкімі серыямі па старых скураных пацёртых мяхах, стараючыся закончыць кожную атаку акцэнтаваным заключным ударам. Нарэшце прагучаў гонг.

— Усё, закончылі. Да новых хвалюючых сустрэч у новым годзе, — трэнер зноў расплыўся ў задаволенай пераможнай усмешцы.

Аддыхаўшыся і сабраўшы свае рэчы, мы марудна пацягнуліся ў душ.

Праз гадзіну мы сядзелі ў інтэрнацкім пакоі маіх прыяцеляў па інстытуце фізкультуры — Сашкі Лебяды ды Эрыка Аскерава — і чакалі яшчэ двух сваіх сяброў, бо на Новы год мелі агульныя і далёкасяжныя планы.

Пакуль тое, мы з Эрыкам пераконвалі сына савецкага вайскоўца, сціплага і простага расейскага хлопца Сашу адмовіцца ад паездкі дамоў у горад Ліду і рушыць з намі да рэ-

старана «Журавінка», дзе на Новы год мелася сабрацца немалая кампанія нашых сяброў-спартоўцаў.

У васьмідзясятых «Журавінка» лічылася надта папулярным месцам, дзе была адпаведная публіка, вялікая прастора і жывая музыка. На ўсе нашы прапановы Саша надзіва выяўляў стойкасць духу і ўпарта збіраў рэчы ў дарогу. З твару Сашкі не сыходзіла лёгкая і, калі так можна сказаць пра баксёра, пяшчотная ўсмешка.

Тым часам у пакой зайшлі яшчэ двое нашых сяброў — ветлівы піжон Лёша Кварта і лёгкі, усмешлівы, курчавы бландзін-амурчык Юзік Пуневіч, ці проста Пуня. Трошкі паслухаўшы нашу размову, Лёша Кварта, пільна разглядаючы ў люстры свой акуратны і роўны прабор, заўважыў:

— Санёк, там сёння на Новы год блюз якасны абяцаюць.

Лебяда на секунду выпрастаўся над сабранай кайстрай і з дзіцячай цікавасцю спытаў:

— А што такое блюз?

— Гэта, Санёк, — урачыста тлумачыў прыяцелю Кварта, — калі гасне святло, на сцэну ў срэбным пінжаку выходзіць музыкант з залатой трубой і пачынае граць такую пранізлівую і шчымлівую мелодыю, што пад яе ты можаш заявіць правы на любую прынцэсу, што апынецца побач, і яна табе, дай веры, не здолее адмовіць.

Лебяда трошкі засмуціўся і, каб мы нарэшце адчапіліся, раскрыў сваю таямніцу. Саша закахаўся і прагнуў хутчэй дабрацца да прадмета свайго захаплення ў горад Ліду, каб сустрэць з каханай Новы год.

— Яна такая файная, такая прыгожая, такая… — твар прыяцеля зрабіўся прасветлены і ўзнёслы, які толькі можа быць у чалавека, што восем гадоў са сваіх дваццаці аднаго прагнуў паслаць саперніка ў накаўт.

— Усе файныя й прыгожыя, — заўважыў Кварта. — А можаш неяк больш канкрэтна апісаць сваю даму?

— Ну, яна такая… — Саша моршчыў лоб, падбіраючы патрэбны эпітэт для сваёй абранніцы, і раптам, выдыхнуўшы, з пачуццём вымавіў: — Такая каранастая!

Паўстала паўза, нашы твары застылі з гамай невымоўных эмоцый, вочы заззялі вясёлым бляскам, але нам хапіла далікатнасці не засмяяцца.

— Ясна, — падкрэслена раўнадушна, праз непрацяглую паўзу, зазначыў Кварта. — Можа, фотка ёсць?

— Не. Яна лічыць, што дарыць фоткі — кепская прымета, — адказаў Сашка.

— Добра, шуруй, чувак, да сваёй каранастай каханай, — падвёў рысу Кварта, і Лебяда, схапіўшы кайстру, выскачыў з пакоя.

«Ведь счастье — это же птица, упустишь и не поймаешь…» — працытаваў Кварта папулярную на той час песню савецкай эстрады ўслед закаханаму таварышу перад тым, як мы нарэшце заржалі.

Праз нейкіх паўгода мы з Эрыкам Аскеравым спявалі «Сто лят» за вясельным сталом у мястэчку Лідзе, дзе наш сябар Саша браўся шлюбам са сваёй «каранастай прыгажуняй».

Жанр гэтае дзеі я б не наважыўся вызначыць і сёння.

Віншуючы сына з «вялікай падзеяй у ягоным жыцці», плакала Сашава маці, на плячы Эрыка захлыналася слязьмі сястра; гледзячы на родных людзей, нясцерпна рымзаў сам жаніх. Побач з ім, румяная і шчаслівая, з кароткімі ручкамі і ножкамі, сутулаватая, з велькім даўгім носам пад белым вясельным капялюшыкам, вельмі падобная на шчуровага цара з незабыўнага мульціка пра алавянага салдаціка, стаяла радасная нявеста. Яе вочы свяціліся непадробным шчасцем.

Але тое было праз паўгода спякотным летам, а ў навагодні снежаньскі вечар 1983-га казармавая прастора «Журавінкі» раздзіралася ад хіта сезона: «Ах, белы цеплаход, гудка трывожны бас…» Вольных «пасадачных месцаў» у той час, пагатоў у святочныя дні, не існавала ў прынцыпе. Народ шалеў ва ўгары эпохі застою.

Каля сцэны, паставіўшы на падлогу дамскія сумачкі, разам з сяброўкай у яскравым танцы саліравала мая школьная сімпатыя — зеленавокая аднакласніца Наташка. Я зразумеў, што вечар для мяне набывае асаблівы сэнс.

Мы хто як патроху шукалі свайго навагодняга шчасця. Высокага імпазантнага Кварту адразу ж заслупіла самаві-

тая львіца «за трыццаць», Эрык сустрэў землякоў з Азербайджана, я кружыўся ў танцы з аднакласніцай Наташкай, і толькі Пуня хадзіў злёгку непрыкаяны.

Мае запаслівыя знаёмкі мелі прынесеную ў рэстарацыю пляшку, але не мелі месца, дзе яе паставіць. Я дамовіўся са знаёмымі самбістамі, што, пакуль іх кампанія занятая танцпраграмай, мы з барышнямі прысядзем за барцоўскі столік.

Кульнуўшы раз, і два, і тры, Наташчына прыяцелька не здолела супрацьстаяць спакусе пакаштаваць астылай, але ўсё ж такой блізкай закускі і, схапіўшы відэлец кагосьці з барцоўскай каманды, пачала ганяць па чужой талерцы раз за разам уцякаўшую ад яе лустку смажанай бульбы.

Было падобна, нібыта шалёная курыца ніяк не здолее сфакусаваць прыцэл сваёй няўклюднай дзюбы. Але мне было не да гумару, бо музыка ўзяла паўзу і да свайго століка вярталіся барцы.

Дагэтуль перад вачыма няўцямны, амаль спалоханы твар Супер-Вовы — самага вялікага, далёка за 100 кг, чальца барцоўскай кампаніі. Вова аслупянеў ад карцінкі, што паўстала перад вачыма. З ягонай талеркі, ягоным відэльцам, ягоную выпакутаваную вячэру спраўна знішчала нейкая зусім незнаёмая цыпа. Вырашыўшы, што памыліўся, Супер-Вова пачаў круціць галавой і шукаць свой столік наноў, але памылкі не было. Мне было страшна няёмка, і я па-дзіцячы схаваўся ў далонькі. Далей паміж Наташчынай сяброўкай і Супер-Вовам адбыўся наступны дыялог:

— Я тут… крыху пад’ела, — сабраўшы зморшчыны на лобе, заўважыла дама.

— Нічога, нічога, — сціпла адказаў уражаны Супер-Вова.

На гэтым месцы, на маё шчасце, у зале патухла святло. Я трохі раскрыў далоні і ўбачыў на сцэне ў святле рампы музыканта з залатой трубой. Музыкант задраў трубу ўгору і зайграў той самы пранізлівы і цёплы блюз, пра які распавядаў Кварта. Разам з гэтым згасла шалёная няёмкасць каля барцоўскага століка. Праз імгненне я трымаў за руку сваю зеленавокую аднакласніцу, прабіраючыся бліжэй да сцэны.

У навагоднюю ноч мы з Наташкай пілі шампанскае, згадвалі школьныя часы і адчайна цалаваліся, седзячы на ле-

свіцы ў пад'ездзе каля дзвярэй Наташчынай кватэры, пакуль не ўбачылі абутыя ў тапкі ногі яе маці.

Калі ў першы дзень новага года я завітаў у гасцініцу «Спорт», то заспеў там толькі трошкі памятага Эрыка з азербайджанскім каньяком у спартовай сумцы.

Апярэдзіўшы маё пытанне, Эрык паведаміў:

— Курт у львіцы, Пуня ў ментуры, а я з землякамі.

— А Пуня за што? — запытаў я.

— Ды звычайны яго нумар, — паморшчыўся Эрык.

Наш прыяцель не хацеў заставацца ў святочны вечар адзін і, актыўна шукаючы сабе пару, нагледзеў вышэйшую за яго на паўгалавы, эфектную і фігурыстую Снягурку. Але тая, як і мае быць на Новы год, была занятая мажным Дзедам Марозам.

Пуня меў рэпутацыю валявога байца і адступаць не збіраўся. Ён рабіў Снягурцы знакі, нахабна прапаноўваў ёй шампанскае на брудэршафт, скакаў вакол козлікам. Урэшце Дзеду Марозу надакучыла такая карцінка, і ён прапанаваў Пуню «пагаварыць».

Яны спусціліся ў вестыбюль, сталі ля дзвярэй з рыфлёнага чэшскага шкла, дзе лёгкі як пёрка Пуня засведчыў у вербальнай спрэчцы нечуваную для свайго піянерскага выгляду дзёрзкасць. Вялікі Мароз не стрымаўся і стрэліў малому нахабу зверху ў лоб, Пуня звыкла нырнуў пад руку саперніку. Следам пачуўся ляскат разбітага чэшскага шкла. Звычайна ў такіх выпадках Пуня са спалоханым і разгубленым тварам адыходзіў убок, а апанент лез у кішэню па грошы, каб не мець непрыемных праблем з рэстараннымі швейцарамі і міліцыяй. Але гэты вечар быў навагодні, побач стаяла Снягурка, і наш сябра, не ўтрымаўшыся, падчапіў левай знізу Дзеда Мароза пад белую бараду.

У пастарунак забралі і Пуню, і Дзеда Мароза, следам за якім у варанок ускочыла Снягурка.

Раптам адчыніліся дзверы, і ў пакой зайшоў са злёгку летуценным выглядам Лёша Кварта. Ягоны нос меў лёгкі сінявата-ружовы ўзор на самым кончыку.

Паставіўшы на стол набытыя па дарозе пляшкі піва, моўчкі выслухаўшы нашы аповеды і паправіўшы свой прабор, Лёша меланхалічна зазначыў:

— Знаеце, пацаны, у навагоднюю ноч я мог памерці самай лютай смерцю.

Пры гэтых словах нават стомлены Эрык адарваў галаву ад падушкі. Мы чакалі працягу.

Увесь вечар у «Журавінцы» Кварта знаходзіўся пад надзейнай апекай. Жонка маёра Узброеных сіл СССР з новага менскага мікрараёна Уручча, пакуль муж за нейкую правіну меўся дзяжурыць на Новы год, вырашыла стварыць сабе свята з агнём і перцам.

Уручская львіца вабна ўсміхалася свайму маладому, высокаму і элегантнаму кавалеру. Кавалер у адказ усміхаўся таксама і з лёгкай настойлівасцю ў часе павольных танцаў пагладжваў формы свае партнёркі. Грала музыка, цёплы блюз змяняўся халодным, і Кварта ўсё больш пэўна і разняволена пачуваўся за сталом сваёй апякункі. Трошкі пазней таксаматор панёс добра ўгрэтага кавалера ў логава львіцы.

Дома афіцэрская жонка была цудадзейна гасціннай. Лёша ўсё піў, еў, меланхалічна ўсміхаўся і жарсна цалаваў ільвіцу ў вусны, аж пакуль у ягоных вачах не заззялі ўсе зоркі сусвету і Лёша не праваліўся ў мёртвы юнацкі сон.

Прачнуўся Кварта, калі сонца стаяла ўжо надта высока. Заплаканая львіца, падкурчыўшы ногі, уціснулася ў фатэль, па яе твары павольна каціліся дзве вялікія мутнаватыя слязы.

— Пэўна… былі непрыемнасці? — нясмела запытаў Кварта.

Спачатку львіца не зразумела, што Лёша заснуў (меланхалічная ўсмешка не сыходзіла з Лёшавага твару і ў сне), яна лашчыла яго цела ўсімі магчымымі ласкамі. Калі ж Квартаў сон стаў для яе явай, каханка пачала трэсці і штурхаць яго ў гневе, а пасля церці вушы і нос.

Лёша не рэагаваў, толькі круціўся калачыкам, закрываў твар рукамі і адварочваўся спінай. Урэшце львіца зразуме-

ла, што не дасць рады, і лінула на галаву кварту халоднай вады. Усё было марна. Лёша не прачынаўся.

Познім ранкам, вырваўшыся з дзяжурства, дадому забег маёр. Паглядзеўшы на бедлам, што панаваў у ягонай хаце, маёр зайшоў на кухню, зірнуў на талеркі з аліўе і келіхі з каньяком, дастаў з кабуры, разабраў, пачысціў і сабраў свой «макараў», затым з рыльца глынуў астаткі каньяку і, прамовіўшы адну фразу: «Новы год, курва, не будзем псаваць свята», — уклаў пісталет у кабуру ды ляснуў дзвярыма.

Выслухаўшы аповед маёрыхі, Кварта моўчкі зайшоў на кухню, пакруціў цяжкай галавой, кульнуў недапітую ўчора чарку, укусіў сухаваты бутэрброд і, памяўшыся ў дзвярах, сцішана вымавіў:

— Ну, я пайшоў. Даруй, калі можаш.

Скончалі мы першы дзень новага, 1984 года няспешнай размовай, час ад часу дзякуючы азербайджанскім таварышам Эрыка Аскерава за падораны земляку-спартоўцу азербайджанскі каньяк.

Пад самы вечар у дзвярах паказалася бландзіністая галава вясёлага Пуні.

— Нават штрафу не далі. Новы год у пастарунку, — смяяўся ён, — не самы горшы Новы год. А менты ў святочны вечар — нават чулыя і прыветныя людзі.

Гэта быў апошні год так званай эпохі застою. Яшчэ не патануў у Чорным моры сімвал тае эпохі белы цеплаход «Адмірал Нахімаў», яшчэ не ўводзілі ніякіх сухіх законаў, яшчэ не пакаціла па той краіне магутнай хваляй «перастройка». Яшчэ ўсё было наперадзе.

Мне не шмат вядома пра тых, з кім я сустракаў апошні год свайго юнацтва.

Саша Лебяда нядоўга цешыўся шчасцем кахання са сваім «шчуровым царом». Ён з’ехаў з Ліды перад самым распадам Саюза, і яго сляды згубіліся недзе на Данбасе.

Мая зеленавокая аднакласніца Наташка выйшла замуж і мае смешнага ды зануднаватага мужа, з якім мы трохі выпіваем, калі мне надараецца зайсці да іх у госці.

Эрык Аскераў вярнуўся на радзіму ў Нахічавань, неўзабаве перад тым як пачалася армяна-азербайджанская вайна.

Пуня, па чутках, нібыта быў ганяў аўтамабілі з Нямеччыны.

З Лёшам Квартам мы зрэдку бачымся на спаборніцтвах. З нязменнай меланхалічнай усмешкай на твары ён судзіць баксёрскія двубоі.

Калі, мінаючы былы рэстаран «Журавінка», я спускаюся да Купалаўскага сквера, ці падымаюся ў Верхні горад, ці іду берагам Свіслачы, часам аднекуль да мяне далятаюць ледзь чутныя гукі таго залатога блюза, і тады мой крок робіцца крыху павальнейшым.

*2003*

# ХМАРА

Сонца жарыла, як у апошні дзень. Стаяла такая задуха, што без вады было не абысціся. Мы сабраліся і душэўнай кампаніяй паехалі на Цну. Я, Віця, Кася, Сева і Гена. Па шляху здарыўся піўбар «Фрэгат», пасля зайшлі ў краму і павольна пасунуліся, шукаючы зручнага месца для прыпынку на беразе вадасховішча.

Халера, але нехта ж прыдумаў піць гарэлку ў спёку. Пілі і мы. Адзін, два, тры разы — і накаціла шалёная эйфарыя. Так бывае. Як той казаў, паперла.

Перла люта і неміласэрна. Калі шчыра — дурны стан. Разумееш, што варта было б тармазнуць, але не выходзіць, віхор ужо закруціў цябе.

— Ты цішэй у ваду скачы, — заўважыў Віця, самы асцярожны сярод нас. — Вада халодная, сэрца гарачае, можа здарыцца канфлікт тэмператур.

— Я канфліктаў не баюся, я вазьму і ўтаплюся, — па-дурному рагатаў я і зноў кідаўся ў ваду.

Сонца паднялося і паліла яшчэ зласней.

— Кася, паглядзі, ты плечы спаліла, — паказаў Гена на пачырванелую скуру Касі. Далей высветлілася, што няма чым намазаць спаленыя Касіны плечы, што Гена згубіў акуляры, а Віця знік.

Калі акуляры знайшліся, а Віця прыйшоў з лекамі ад апёкаў, пачалі будзіць заснулага Севу. Пабудзілі, і ўсё працягнулася наноў. Аж пакуль раптам не заўважылі гэтую хмару. Адкуль яе прынесла, ніхто толкам не мог растлумачыць. Хмара была вялізнай і чорнай, яна марудна і непазбежна сунулася, як нам здавалася, на нас. Напаўзала, нібы жахлівы і злавесны монстр. Неадступна і бязлітасна.

Мы стаялі і нейкі час зачаравана глядзелі на яе, настолькі вялікім і жахлівым быў яе магнетызм. Яна ўсё прыбывала і прыбывала, рабілася чарнейшай, закрыўшы сабой і пякучае сонца, і ўжо палову неба.

Мне стала страшна, страшна па-сапраўднаму. Не як ад нейкай звыклай пабытовай сітуацыі, але страшна глыбока, калі страх замяшаны на невыноснай тузе, калі ты ведаеш, што ты драбінка і нічога змяніць ужо не ў стане.

— Апакаліпсіс, — прашаптаў я, гледзячы, як клубяцца сотні чорных ценяў унутры хмары. Пэўна, нешта падобнае адчувалі і мае сябры.

— Усё, збіраем манаткі! — скамандавала Кася. Мы хуценька згарнуліся і пасунуліся да прыпынка. Хмель выветрываўся па меры набліжэння хмары. Яна даганяла нас, даганяла бясшумна, як хіжы звер. Ніводнае маланкі, ніводнага грому, ніводнае кроплі. Але ад гэтага рабілася толькі больш жудасна.

Вакол подбегам снавалі людзі, раз-пораз азіраючыся на неба. Калі мы пачалі падымацца ўгару, на прыпынак да «Фрэгата», насыпала першых буйных кропляў. Перад самым носам сышоў цалкам набіты тралейбус, але нам пашчасціла, бо да пляцоўкі зарулі́ў выпадковы таксёр.

Рушылі з месца і нейкі час ехалі моўчкі.

«Уцяклі», — падумалася мне. Я яшчэ раз азірнуўся на хмару. Зрабілася цемнавата, і таксёр уключыў фары. Усё ж трывога не адпускала, нейкая стрэмка сядзела ў галаве і не давала супакоіцца канчаткова. Але хмара адстала, і хмель пачаў вяртацца.

Віця, Кася і Гена выгружаліся ўжо з жартамі, быццам бы ўсё супакоілася, але па дарозе дадому на бульвар ламанула такая залева, што таксі спынілася.

— Галоўнае — паспець прамінуць Бангалор — самае нізкае месца. Там заўжды патоп, — заўважыў таксёр. Мы паспелі.

— Ты далей ці да мяне? — спытаў я ў Севы.

— Дамоў, — ледзь прамармытаў Сева, але, паглядзеўшы мутнымі вачыма на залеву і шэрасць, што панавала вакол, перадумаў.

За акном, не сціхаючы, лупіў дождж, і трывога ўсярэдзіне зноў пачала падымацца пад горла. Я затэлефанаваў маці і спытаў, ці дома брат, што меўся выправіцца ў кінатэатр «Масква». Брат быў дома. Неўзабаве залева скончылася, і мяне адпусціла канчаткова.

Сева хроп на кушэтцы. Я ўключыў расійскую «Свабоду», чакаючы «Эксలібрыс» Пятра Вайля, і, не дачакаўшы, таксама заснуў.

Было гадзіны тры ночы, калі, змучаны смагай, я прахапіўся і пайшоў па ваду. З радыё загучалі пазыўныя свабодаўскіх навін, а праз імгненне я так і застыў з кубкам у руцэ. Да свядомасці даляталі асобныя словы, якія складаліся ў жахлівую навіну: Мінск, метро «Няміга», канцэрт, залева, шматлікія ахвяры…

— Сева, чуеш?! На Нямізе людзі патанулі! — падышоўшы да кушэткі, трос я прыяцеля. Чамусьці адразу мне здалося, што менавіта патанулі.

Сева не прачынаўся. Я павярнуўся да начнога акна, і перад вачыма зноў паўстала тая хмара. Як яна паўзла над Цной, як мяняла свае формы й колеры, ад ліловага да чорнага, ад чорнага да ліловага…

— Колькасьць ахвяраў дасягнула пяцідзесяці трох, — чарговы раз ужо ранкам паведаміла «Свабода»…

— Ты чуў пра Нямігу? — спытаў у мяне Сева.

— З трох гадзін ночы па «Свабодзе» першай навіной, — адказаў я.

— Не па нас тая хмара ішла, — павольна прагаварыў ён праз паўзу, задуменна дапальваючы цыгарэту.

*На Нямізе галовы сцелюць снапамі,*
*харалужнымі малоцяць цапамі,*
*жыццё кладуць на таку злюцела,*
*веюць душу ад цела.*
*Нямігі крывавыя берагі…* —

пра сябе згадаў я калісьці завучанае, уголас дадаўшы:

— Мы на Цне апынуліся, але не на Нямізе…

Каля ўвахода на станцыю метро «Няміга» стаяў міліцэйскі патруль. Людзі неслі кветкі. Побач туліліся купкі мо-

ладзі, шмат у каго з юнакоў цяклі слёзы. Нехта нешта распавядаў. Але найбольш мяне ўразілі далоні на століі пераходу, то бок сляды ад іх. Я паспрабаваў уявіць тую жудасную карціну, калі гэтыя чалавечыя далоні спрабавалі ўхапіцца за столь, каб выжыць… І міжволі засланіў далонямі свае вочы.

Гэтыя «далоні на столі» я бачу кожнага разу, калі спускаюся ў метро «Няміга», яны нікуды не зніклі, няхай сляды ад іх шматкроць зачысцілі і зафарбавалі. І тады я згадваю тую страшную чорную хмару, якая з’явілася ніадкуль над Цною, але сабрала сваё жніво на Нямізе. Ніхто не ведае, калі яна прыйдзе зноў і па каго.

*2016*

## СОН ПАСЛЯ КАТАСТРОФЫ

Канец красавіка, сядзім з сябрам у ягонай кватэры на бульвары, п'ём гарбату і глядзім у акно. За акном цёткі, захутаныя ў капюшоны і шалікі, выгульваюць сваіх пёсікаў.

— Трыццаць гадоў пасля катастрофы… — кажа сябра і сумна так усміхаецца. — Мне акурат сон прысніўся. Сёння… Але перад тым я табе адну гісторыю распавяду. Чарнобыльскую.

Калі рэактар грымнуў, я асістэнтам кінааператара на кінастудыі працаваў. І так склалася, што патрапіў у першую экспедыцыю туды, у пацярпелыя раёны.

Дзён праз дзесяць пасля выбуху дамовіліся мы з сябрам, кінааператарам Сяргеем, што я дапамагу яму бабіны з плёнкай спарадкаваць. Хаджу па калідорах студыйных, чакаю яго са сходу партыйнага, раптам вылятае з залы, дзе сход той адбываўся, узбуджаны такі, чырвоны, ажно пот на твары. Пытаю, што здарылася, а ён толькі губу закусіў, ходзіць узад-уперад, маўчыць. Пасля выпальвае:

— Ды ў Чарнобыль паслалі ў экспедыцыю… пад Хойнікі.

Аказалася, што на сходзе тым вырашалі, каго паслаць. Аднаго камуніста паднялі, кажуць — паедзеш. Той кажа: «Не, не паеду. У мяне дзяцей няма яшчэ». Следам паднялі мэтра аднаго, кажуць, заданне адказнае, трэба, каб усё прафесійна было знята.

Мэтр, трэба аддаць належнае, па-элеганцку выкруціўся. «Добра, — кажа, — паеду, але буду здымаць праўду». Падвісла няёмкая паўза, і для мэтра зараз знайшлася іншая тэрміновая праца. А тады ўжо да Сярогі пад'ехалі. Вы, кажуць, Сяргей, кандыдат у члены КПСС, вось вам партыйнае да-

ручэнне. Што рабіць, адмовішся — капец кар'еры. Карацей, пагадзіўся Сярога.

Глядзіць мне ў вочы і пытаецца:

— Паедзеш са мной у групе асістэнтам?

— Паеду, — адказваю. Як сябру адмовіць? Да таго ж гэта ўчынак быў такі мужчынскі. Мы ж на Хемінгуэі гадаваліся… Ну і маладыя — хоць і напалоханыя чуткамі, але не ўсведамлялі той катастрофы. Была такая цікавасць юначая: а як там?.. Так што заскочыў дадому, джынсы новыя нацягнуў — і на кінастудыю.

У Хойнікі прыехалі апоўдні, а там палівачка ездзіць і паливае бясконца пляц перад райкамам. Коламі кружыцца, як завадная, пырскае і пырскае вадой. І больш нікога.

Прыехалі на поле калгаснае, здымаем, як цёткі капусту садзяць. Сядзяць на баране, што за трактарам, у павязках марлевых, і торкаюць у баразны расаду. Пыл шалёны, яны зверху нейкую плёнку нацягнулі, а пад ёй ён — як хмара чорная. Пытаемся: навошта плёнку нацягнулі? Адказваюць, што ад радыяцыі хаваюцца… А па ўскрайку поля «партызаны» ў хімабароне ходзяць з «гейгерамі», і пішчаць тыя «гейгеры» бязлітасна.

Пасялілі нас у будынку інтэрната ПТВ. Навучэнцаў эвакуявалі, а нас туды. Аглядаемся. Зайшлі ў «ленінскі пакой». Пустая шэрая зала, тры крэслы і тэлевізар уключаны. Сюр такі. У тэлевізары Гарбачоў. Кажа, што эвакуацыя адбылася паспяхова. А нам толькі заўтра тую эвакуацыю здымаць…

Дык вось, жылі ў тым інтэрнаце яшчэ дзяўчынкі з медычнай вучэльні. Яны ваеннаабавязаныя, маладзенькія зусім. Перад тым нас папярэдзілі, каб мы не чапалі іх. Мы спачатку падумалі, што яны «фаняць». Можа, і «фанілі», хто там разбіраўся. Такія гадоў васямнаццаць, амаль школьніцы. Мы зайшлі, ведаеш, а яны ў вайсковай бялізне ходзяць. Кальсоны там на завязках, кашулі белыя. У мяне першая асацыяцыя — з фільмам «А досвіткі тут ціхія»… Такая фізічная прысутнасць вайны… Аж дрыжыкі па скуры. Не ведаю, дзе яны былі, што рабілі…

Мы на вячэру расклаліся, толькі пляшку адкаркавалі, а там — віск, енк. Выглянулі, дзяўчына бегае, як ашалелая,

крычыць, а тры таваркі ейныя яе злавіць спрабуюць, супакоіць. Такія справы…

Павячэралі, выйшаў я пакурыць перад сном, гляджу, сядзіць адна, прыгожая такая, валасы доўгія да плеч, слёзы цякуць і цякуць. Моўчкі. Я да яе падыходжу, стаў — куру побач. Яна маўчыць, а пасля пытаецца ў мяне:

— Дзядзечка, а мы памром?…

А мне самому дваццаць чатыры гады. Што адказаць? Як заклінавала, а пасля нешта пачаў такое звычайнае, абы не маўчаць…

І захад сонца ў неймаверным колеры. Фарбы насычаныя, малінавыя. Я нават у Таджыкістане ў пустэльні, калі там здымалі, такога не бачыў.

Пытаюся:

— Як тваё імя?

— Лена, — адказвае.

— А мяне Алег клічуць.

Пагаварылі трошкі. Аказваецца, яны салдацікаў і пажарных з зоны правяралі і апрацоўвалі. Нагледзеліся ўсякага. Вайну, словам, сапраўдную пабачылі. Ні псіхолага разам з імі, нікога. Толькі дзядзька заўхоз.

Наступным ранкам нам з'язджаць ужо, і яны сваю хімабарону складаюць. Падышоў да яе і кажу:

— Лена, усё будзе добра. Чуеш?

Яна так, вачэй не падымаючы, кіўнула галавой і пайшла… Тоненькая, валасы развяваюцца. Неяк так мне прыкра зрабілася, проста немагчыма. Нібыта мог дапамагчы нечым і не дапамог.

Але што ж, паехалі эвакуацыю здымаць. Слюнькоў прыехаў, партбос тагачасны. Вакол шапікі стаяць з каўбасой і гарэлкай. Танныя, за капейкі. Народ хто плача, хто маўчыць. Аўтобусаў калоны. Толькі камеру паставілі, падыходзіць гэбіст і кажа:

— Не трэба здымаць. Гэта не для прэсы.

А следам Слюнькоў да народу:

— Да не бойцеся вы, мне зуб вырывалі, рэнтген рабілі, дык там большая радыяцыя. Адпачняце месяц і дадому вернецеся…

Так і не далі зняць.

Паехалі далей. Статак кароў з-пад Чарнобыля прыгналі ў эвакуацыю. Здымаем панараму, кропкай заключнай цялё гадавалае выбралі. Прымерыліся, вядзём панараму, а кропкі няма. Думалі, праскочылі, адарваліся ад аб'ектыва, глядзім — цялё ляжыць. Падыходзім бліжэй, а яно проста сканала, не дачакаўшы нашае кропкі. Ляжыць нежывое.

Настрой — горш няма. Трэба ж такое на заключны кадр. А ў галаве Лена, дзяўчына тая. Думаю, вось, на развітанне не тое сказаў. Не так. Не паверыла. Па Станіслаўскаму ўсё.

Дарога, лес міма ляціць. Нарэшце пост дазіметрычны. Выйшаў маёр такі ў акулярах, з жывоцікам. Памераў. Кажа:

— Так, хапанулі вы, хлопцы. Машыну, ясна, спішуць, а вам дома вопратку, абутак зняць і закапаць на звалцы дзе.

— Што, і джынсы? — пытаюся. — Яны ж новыя.

— І джынсы, — кажа.

Аказалася, што доктар-радыёлаг. Адышліся пакурыць, я ў яго пытаюся: маўляў, што парадзіш, каб радыяцыя выходзіла?

А ён мне:

— Адзінае магу парадзіць у такім выпадку — кроў здаваць. Рэгулярна. Кожны месяц. Такім чынам арганізм абнаўляецца. — І цэлую лекцыю прачытаў, як там і што, пакуль курылі.

Селі ў машыну далей ехаць, і тут мяне як торкнула. Вось што трэба было ёй сказаць. Практычную параду, проста каб паверыла.

Мы не надта далёка ад'ехалі, сказаў хлопцам, што пашпарт забыў. Вадзілу паабяцаў пару пляшак гарэлкі і — назад у той інтэрнат. Прылятаем, а там няма ўжо нікога. Толькі заўхоз іхні шоркаецца.

Я да яго, пытаюся:

— Можаш перадаць нататку дзяўчынцы адной вашай? Ленай клічуць. Такая з даўгімі каштанавымі валасамі.

Ён мне ў адказ:

— А як? Яны на ратацыю выправіліся. Давай, калі неяк сустрэну, не забуду і не згублю, то перадам.

Я напісаў па памяці ўсю тую лекцыю маёрскую. Аддаю яму і кажу:

— Сам пачытай таксама, калі хочаш. Толькі перадай, богам прашу.

Ён так зірнуў на мяне ўважліва, узяў паперу, склаў акуратна і ў кішэню.

Рушылі да Мінска — аж, здаецца, камень з душы… Зрабіў усё, што мог.

Дзякуй таму маёру-радыёлагу. Сярога ўпарціўся трохі, але я яго пераканаў. Так мы тры гады кроў здавалі кожны месяц. І на кроў, і на плазму, пакуль я на Боткіна не захварэў. Можа, ад таго і жывыя абодва дагэтуль. Адно я зрабіў не па доктарскай парадзе — джынсаў не выкінуў. Але хто ж у тыя часы мог джынсы новыя выкінуць? Нават радыеактыўныя.

А цяпер пра сон, нарэшце. Прыснілася сёння мне тая дзяўчынка Лена. Ідзе, валасы развяваюцца, усміхаецца і кажа мне:

— Трэба ж, столькі гадоў прайшло, але па сёння цябе памятаю…

*2016*

## РЭЙС ГАНДЛЁВЫ МЕНСК—ВАРШАВА—МЕНСК

— Пад’язджаем, — голас кіроўцы прымусіў яе прачнуцца.

Снілася яе школа ў блізкім ад сталіцы мястэчку. Яна ішла па доўгім школьным калідоры весці ўрок геаграфіі ў 7-м «А». Калідор усё не сканчаўся; калі ж яна ўрэшце зайшла ў клас, за партай сядзеў толькі адзін, трохі спалоханы, з белабрысым віхром, з адчайнымі блакітнымі вачыма, вучань. Праз сон яна ўсё намагалася згадаць ягонае імя і прозвішча, але так і не дала рады.

— Дзе твой клас? — хацела яна запытаць у хлопца, але голас кіроўцы вярнуў яе з гэтага трызнення ў рэальнасць.

Заўчора пачаліся веснавыя вакацыі, і яна, завуч правінцыйнай школы, пагадзіўшыся на прапанову сяброўкі-каляжанкі, настаўніцы малодшых класаў са сталіцы, хуценька наладаваўшы валізы розным шырпатрэбам — кіпяцільнікамі, пачкамі цвікоў, двума электрапрасамі, берасцейскімі шкарпэткамі, ялізаўскімі «малянкоўскімі» гранёнымі шклянкамі і іншай драбязой, — рушыла ў новы камерцыйны досвед з менскага пляца Перамогі, як смяяліся яе калегі, «чартарным» рэйсам па маршруце Менск—Варшава—Менск, шляхам, наезджаным на той час тысячамі беларусаў.

Аўтобус ужо амаль заехаў у Варшаву. Быў сонечны досвітак, за акном мільгацелі варшаўскія прадмесці, спрэс запоўненыя рэкламнымі шчытамі розных памераў і колераў.

Яна працерла вочы, пасля глянула на сябе ў дамскае люстэрка, якое дастала з кішэні, уздыхнула і пачала рыхтавацца да высадкі на рынак.

Разгрузіліся хутка, падхапіўшы свае пляцакі й кастры, гуськом рушылі на стадыён займаць зручныя месцы для гандлю. Гэта была яе «першая ходка», як смяялася прыяцелька-настаўніца.

Не паспела яна раскласціся, як да яе падышоў гэтакі спрытны, спрактыкаваны паляк.

— Цо пані хцэ за прас электрычны?

Яна разгубілася не столькі ад напору, як ад слова «пані». Паляк усміхнуўся, адчуўшы яе засмучанасць, і прапанаваў сем долараў за прас.

«Божа мой, — падумала яна, аддаўшы прасы такім коштам, — чатырнаццаць долараў! Гэта ж мой месячны заробак, а можа, і болей».

Да поўдня яна цалкам разгрузіла сваю кайстру ад наладаванага тавару — дзе за долары, дзе за златуўкі — і ўжо чакала сваю каляжанку, каб пайсці ў «кантар» памяняць тыя златуўкі на долары. Калі трохі пазней яны адышлі ад абменніка, яна налічыла пяцьдзясят два долары ўгандляванага прыбытку. Яна схавала грошы ў глыбокую ўнутраную кішэню і задаволена выдыхнула — не адно ад таго, што добра ўгандлявала, але і ад таго, што ўсё скончылася. Стадыён-рынак падаўся ёй не надта ўтульным месцам.

Дамоў збіраліся таксама хутка. Нехта нешта прыкупіў з прадуктаў, нехта з адзення, але збольшага асабліва не траціліся, ашчаджаючы грошы для хатніх патрэбаў. Назад дарога ішла весялей: хтосьці выпіваў-закусваў, жартавалі, колькі мужчынаў гулялі ў карты, а яна моўчкі глядзела ў акно аўтобуса. За акном, прабіваючыся праз пабудовы і пералескі, свяціла веснавое сонца. Калі на мяжы не будзе шалёных чэргаў, то ранкам яны з каляжанкай ужо мусяць дабрацца дамоў. Яна працягвала глядзець у акно і не заўважыла, як задрамала. Наноў адкрыла вочы, калі аўтобус рэзка тармазнуў. Сонца ўжо сядала за лес, ягоных промняў амаль не было відаць. Шарую гадзіну прабівала бліскавіца аўтамабільнага маяка на легкавым аўто, што змушала аўтобус затармазіць, скінуць хуткасць, прыціснуцца да ўзбочыны дарогі і спыніцца. Следам было яшчэ адно аўто,

але без маячкоў. Аўтобус спыніўся. Шумеў лес, вершаліны дрэваў нагінала моцным ветрам. З машыны выйшлі людзі ў чорнай форме, з балаклавамі на галовах і шпаркім крокам скіраваліся да аўтобуса. Калі наваспечаныя камерсанты яшчэ не паспелі зразумець, што стала прычынай прыпынку, «чорныя» ўжо ўскочылі ў салон. У руках яны трымалі хто бізун, хто пісталет, хто аголены штых-нож.

— Добрый вечар, гаспада! Вас прыветствует налогавая інспекцыя. Просім быстра і без фокусав ізбавіцца ат сваіх накапленій. Га-га-га! — звяртаючыся па-расейску з відавочным беларускім акцэнтам, прамовіў галоўны з «чорных» — моцны, з рыпучым голасам дзяцюк — і адразу перацяў бізуном бліжэйшага да яго мужчыну. — Быстр-р-р-а-а-а, я сказал! — зароў ён на перапалоханую грамаду.

Рабаўнікоў было пяцёра: двое пабеглі ў канец аўтобуснага салона, двое былі ў пачатку, галоўны застаўся каля кіроўцы. Яны пачалі з нахрапам забіраць усё, што ўяўляла сабой каштоўнасць, але перадусім грошы. Мужчыну, які, схапіўшыся рукой за спінку сядзення, паспрабаваў падняцца, каб бараніцца, бугай са штых-нажом імгненна прыкалоў руку да спінкі сядзення. Ва ўсе бакі пырснула кроў. Пачуўся крык болю і адчаю, следам жаночы віск.

— Я же сказал, без фокусав! — зноў зароў галоўны бандыт.

Перапалоханыя людзі пачалі мітусліва лезці ў кішэні, кашалькі, пляцакі і аддаваць угандляваныя грошы.

Яна была ў жаху. Акно яе сядзення было ў крывавых пісягах, побач збялелая каляжанка, у якой калаціліся рукі, і хударлявы, высокі злодзей у чорнай балаклаве.

Яна таксама пачала ўжо расшпільваць куртку, каб дастаць свае пяцьдзясят два долары, падумаўшы толькі, што дарма склала ўсе грошы ў адно месца.

У той час, калі ў каляжанкі-настаўніцы вырывалі скручаны чырвонай тоненькай гумкай скрутак угандляваных долараў, яна сустрэлася позіркам з гэтым хударлявым бандытам. На яе глянулі блакітныя халодныя вочы… «Божа мой», — паспела яна падумаць перад тым, як яе сэрца сціснулася ў жменю. Нягледзячы на тое што ён быў у масцы, менавіта па гэтых блакітных вачах яна пазнала яго — таго

белабрысага хлопца за партай са свайго сну. Яна адразу ж згадала ягонае імя і прозвішча. Гэтае імгненне, калі іх вочы сустрэліся, расцягнулася ў часе. У яе галаве мільгацелі карцінкі школьнага жыцця: гэты малец, ягоныя аднакласнікі… Яна нават згадала ягоную маці — стомленую жанчыну з вечна падціснутымі вуснамі, што час ад часу прыходзіла па выкліках у школу.

Ён яе пазнаў таксама і, зразумеўшы, хто перад ім, разгубіўся, задрыжэў вачыма, але адразу ж, быццам бы не заўважыўшы, імкліва перайшоў да наступных ахвяраў.

Праз якую хвіліну з такой самай чорнай кайстрай, як іхняе адзенне, злачынцы выносілі з аўтобуса нарабаванае.

— Да новых валнуюшчых встрэч, — рагатнуў перад тым, як скочыць на зямлю, адзін з бандзюкоў. Іншыя ўжо выкручвалі з аўтобусных колаў ніпелі.

Іхнія машыны, без уключаных праблісĸавых маячкоў, спрытна стартанулі і раставалі ў шэрым паўзмроку шашы Варшава—Берасце.

На якую хвілю ў аўтобусе запанавала абсалютная цішыня, былі чуваць толькі павевы ветру сярод хвояў абапал дарогі.

Далей да людзей пачало вяртацца жыццё. Параненаму хлопцу прамывалі гарэлкай і перавязвалі рану, кіроўца надзімаў спушчаныя колы, людзі падлічвалі свае страты і хто як дзяліліся перажытым. Праз нейкі час прыехала выкліканая кіроўцам сапраўдная міліцыя.

Яна сядзела, захутаўшыся ў швэдры і куртку, закрыўшы далонямі твар, яе патрэсвала. Здавалася, яшчэ трохі — і званітуе.

«Чаму так атрымалася? Чаму менавіта мне выпала такое?» — пытанні, на якія яна не мела адказу, луналі роем у яе галаве. Ёй было няёмка ад таго, што пры ёй засталіся яе долары, і прыкра ад таго, што яна не ведала, што рабіць далей. Яна ўсё згадвала той момант, калі яны пазналі адно аднаго, і ў яе кожнага разу пачынала смактаць пад лыжачкай.

Дабраўшыся дамоў, яна нікому не распавядала пра свайго былога вучня і не падавала заявы ў міліцыю. Амаль год

яна не ездзіла ў тыя гандлёвыя туры, але пасля зноў пачала збіраць валізы ў дарогу, бо настаўніцкіх грошай на жыццё не хапала зусім.

Яе вучня-рабаўніка доўга не было ў мястэчку, але гадоў праз сем яна выпадкова сустрэла яго на вуліцы. Ён ішоў насустрач, але, прыкмеціўшы яе яшчэ здалёк, перайшоў на другі бок. Ні яна, ні ён ніводнага разу болей не глянулі адно аднаму ў вочы.

*2022*

# КАБАНЧЫК

У садзе, падчэпленая да галінаў старой грушы, вісіць вялізная кабанова туша. Пад ёю на снезе стаіць міска, куды сцякае кроў. Дзед Ян падстаўляе пад струменьчык крыві медную конаўку. Побач, у запэцканым крывёй ватніку, стаіць дзядзька Міша.

Настылая на марозе медзь пакрысе запаўняецца чырвоным. Ад конаўкі ўгару падымаецца густая пара.

Гадзіну таму дзядзька Міша, наваліўшыся на кабана і чухаючы за хракавым вухам, мерыўся вызваліць кабанову душу на волю даўгою, вузкаю, з канаўкай для сцёку крыві, калёнай нямецкай швайкай. Але ў самы адказны момант, калі фіялетавае лязо збіралася ўджаліць сваім холадам сэрца жывёлы, на сцэне з'явіўся я, шасцігадовы падшыванец, і з выглядам бывалага вайсковага хірурга зазначыў:

— Да-а, жалка кабанчыка…

— Што ты, саплё, пад руку лезеш, — злосна вылаяўся раз'юшаны дзядзька, ускочыў і даў мне выспятка.

Конаўка запоўнілася чырвоным, дзед нагбом, толькі кадык, як поршань, рухаўся, выпіў да донца. Пакуль ён выціраў пачырванелую вакол вуснаў шчэць, дзядзька плескануў у конаўку гарэлкі, і дзедаў кадык запрацаваў ізноў.

— Наступнага сам будзеш біць, — дзядзька паказаў швайкай у мой бок.

Наступных прывезлі з Ракаўскага рынку ў траўні. Двор аж зазвінеў ад віску і енку. Цётка Насця адразу, як усіх парасят вывернулі з меха на зямлю, пазачыняла дзверы на вуліцу на засаўкі: «Зараз Чыта з трынаццатага дома прыбяжыць, крый божа. Мінулым летам, як зірнула вокам сваім зайздросным, з кабаном невядома што ўсчалося».

На вуліцы майго дзяцінства, што месцілася ў прыватным сектары, між чыгункай і старым менскім аэрапортам, жывёлу трымалі праз дом. А тыя, хто не меў, збіралі і аддавалі рэшткі прадуктаў тым, хто гадаваў.

Мае прыяцелі па дзіцячых гульнях — лапавухі і вечна саплівы Чыцін сынок Сашка ды мой сусед-раўналетка Дзімка, што кожную раніцу гвалціў фано і быў гонарам сваёй бабулі Гэлі, — штодзень грукалі ў нашу браму і высыпалі свае валізкі ў вялікую эмаліраваную місу. Калі ж прыходзіў час свежыны, з валізкамі ў зваротным кірунку выпраўляўся я. Такая была народная кааперацыя.

Апроч суроку, баяліся нашыя людзі яшчэ адной, як казала бабуля, трасцы — «праверак са спалкому», якія з'яўляліся раптоўна, як татарскі наскок. Угледзеўшы ў двары свойскую жывёлу, правяральшчыкі з імпэтам баскакаў абкладалі яе шалёнымі савецкімі падаткамі. Аднойчы такая праверка ледзь не падарвала мой аўтарытэт.

Тоўстая «спалкомаўская» цётка з разлінаваным нататнікам выпытвала ў бабы Гані:

— Ёсць жывёлка?

— Не, даражэнькая, надта ж дорага. Вунь толькі куры ды сабака Джэк бегае.

Але тут, на бабчына няшчасце, улез у размову я.

— А кабаны, бабуля? Ты што, забыла? Там, у хлеўчуку.

У памяці застаўся адно роспачны бабчын погляд і кайстра «спалкомаўскай» цёткі, якая зрабілася страшна пузатай, калі тая выходзіла з нашага двара.

З Рыжым мы пасябравалі адразу, як толькі таго вывернулі з меха. Памыты ў начоўках і адшараваны дзеркачом, захутаны ў чыстую анучу, шчаслівы мой новы сябрук смактаў з соскі сыроватку.

«Во быў час, — ці то з захапленнем, ці то з роспаччу скажа гадоў праз дваццаць выпадкова сустрэты ў крамнай чарзе мой дзіцячы прыяцель, — свіней хлебам выкормлівалі!»

Праўда. Раз на два-тры дні мы сядалі на ровары і выпраўляліся да хлебнае крамы на вуліцу Чкалава. Купіўшы шэсць-восем боханаў самага таннага хлеба, ляцелі назад. Але ж не хлебам адзіным, як той казаў.

Мы з бабкай Ганяй выходзім на недалёкую пустку па сечку. Я, поўзаючы наўколенцах, ірву траву рукамі, бабуля на нягнуткіх, хворых нагах рэжа нажом. Пасля мы збіраем дзічкі, пасля яшчэ нешта. Для бабулі так кожны дзень.

Потым я таўку ў чыгунку старую праўрослую бульбу, а бабуля ставіць на газ вядро з варывам для жывёлы. Варыва будзе булькацець паўтары гадзіны. Іншым разам за гэты час я выслухаю ў бабуліным выкананні цэлы канцэрт беларускай аўтэнтыкі, які чамусьці пачынаўся і сканчаўся «Зялёнаю вішняй».

Мінала лета. Рыжы вырас у важкага кабанчыка, але працягваў хадзіць за бабуляй, як той сабака. Бабуля таксама ставілася да яго асабліва. Гаварыла яму нешта, скардзілася на крыўды ці проста скрэбла спіну грэбенем.

Мы з Рыжым гулялі ў футбол і радэа. Радэа было нашым кароннным нумарам. Гойсаючы на ягонай спіне ў старым фетравым капелюшы, я ўяўляў сябе героем твораў Майн Рыда ды Фенімора Купера.

Аднойчы пад зіму да бабкі на веранду зайшоў дзядзька Міша.

— Калі ты, Ганя, свайго біць думаеш — на Каляды ці пазней?

— Не ведаю, — не адразу адказала бабка. — Шкада мне яго, Міша. Прывыкла я да яго.

— Шкада будзе, калі свежыны не будзе, — заўважыў дзядзька.

Толькі тады я згадаў пра сталёвую швайку, медную конаўку і патэльні са свежынай. Калі дзядзька выйшаў, я спалохана зірнуў на бабулю.

Яна толькі сумна ўсміхнулася.

Ішоў час, я прыязджаў да бабулі радзей. Рыжы рабіўся ўсё больш мажным. Яго ўжо меней выпускалі ў двор, а пра наша радэа я зусім забыўся.

Неяк, прыехаўшы, я не адразу звярнуў увагу на тое, што з хлява не чуваць знаёмага рохкання. Але, калі зразумеў, пытацца пра тое ўжо не хацелася.

Рыжага звёз стары бартавы «ЗІЛ». Ён сам зайшоў па хісткіх мастках у кодаб. Пасля таго як прыбралі масткі, з маленькіх вочак вялізнага кабана адна за адной выцеклі дзве слязіны. Бабуля стаяла, абапёршыся спінай да брамы, у яе таксама цяклі слёзы.

— От жа скажы: скаціна, а як чалавек, як чалавек, — бубніла сабе пад нос адна наша суседка. Яна мне і распавяла пра развітанне бабулі з Рыжым, калі шмат гадоў пазней мы выпадкова сустрэліся каля крамы «Мясныя вырабы» недалёка ад мясакамбіната.

*2005*

# ВЯСЁЛЫЯ КАРЦІНКІ

1

Да Новага года заставалася няшмат часу. Віяланчэліст цяжка выбраўся з аўтобуса, ледзь выцягнуўшы цяжкі футарал з інструментам, другую руку займала кайстра са святочным пачастункам. Адышоўшы колькі крокаў ад прыпынка, ён паставіў рэчы на снег, каб перамяніць зацёклыя рукі.

Настрою не было, ён працёр шкельцы акуляраў і рушыў наперад. З рота валіла густая пара, ужо неўзабаве худы, як ровар, віяланчэліст, нягледзячы на моцны мароз, зноў узапрэў. Амаль кіламетр яму трэба было ісці па вузкай сцежцы праз заснежаную пустку мікраараёна Уручча. Вакол пачынала круціць завіруха. Недзе там, у цёплай кватэры, за снежнай пусткай, віяланчэліста чакала вясёлая кампанія й навагодняя атмасфера. Ён прыспешыў хаду.

Ногі з’язджалі з вузкай сцяжыны й правальваліся ў глыбокі снег. Віяланчэліст згадаў набіты й смуродны аўтобус, з якога ён ледзь выцягнуў сваю віяланчэль.

— Яшчэ гэты запіс на радыё, — ён плюнуў са злосці, — ужо даўно быў бы на месцы.

Вецер шпурляў колкі снег у твар і наскрозь працінаў тонкую турэцкую куртку. Але не гэта было найбольшай бядою. У ягоным датклівым сэрцы сядзела вялікая стрэмка і крывава выядала святочны настрой. Днямі віяланчэліста кінула дзяўчына — прыгожая цёмнавалосая русалка — трэнер па сінхронным плаванні, з басейна, дзе ён час ад часу набіраўся бадзёрасці.

«А ты! Ты, ты кінула, ты!» — круціліся ў галаве словы папулярнага шлягера.

Нага чарговы раз з’ехала са сцяжыны, і віяланчэліст, не выпускаючы з рук рэчаў, зарыўся тварам у снег. Хацелася плакаць.

З іншага канца пусткі насустрач крочылі двое. Скураныя курткі рыпелі на марозе. Нягледзячы на холад, стрыжаныя галовы качкоў-валютчыкаў былі без шапак.

— Ат паскуда, дызель ёсць дызель. Хто ж ведаў, што яна не завядзецца. Зараз пакуль да праспекта дацягнемся, а там паспрабуй яшчэ матор зладзі, — злаваў на свой замёрзлы Opel каржакаваты з квадратнымі плячыма качок.

Вышэйшы, здавалася, не чуў сябра, ягоны твар не змяніўся, жаўлакі механічна хадзілі пад скурай, выціскаючы апошнія сокі з жуйкі.

— Але чаго ёй не хапала, — думаў вышэйшы. — Кабак — калі ласка. Крым — калі ласка. Нават месца змяніў дзеля яе, а там валюты ўдвая менш нясуць… Ну даў пад зад таму батаніку. Што, што з таго?!

«А ты! Ты, ты кінула, ты!» — раз за разам малатком дзёўб у стрыжанай галаве знаёмы матыўчык.

— Ды ладна, братан, — нібыта адчуўшы ягоны стан, скрывіўся каржакаваты прыяцель, — зараз прыедзем на хату, там не такія пцічкі, як твая аспірантка, будуць. Во! — ускінуў рукі да грудзей локцямі наперад, — галівудскі стандарт. Пацаны абяцалі акторак. Галоўнае да Новага году паспець.

Віяланчэліст быў блізкі да адчаю. Няўжо няможна было пасля святаў?

Яму не шанцавала з дзяўчатамі, а тут такая каралева басейна. А можа… Можа, яшчэ не ўсё? Здараюцца ж цуды на Новы год.

Ат жа ж… Ён скрывіўся ў грымасе, згадаўшы яе вочы тады, вечарам, ля кінатэатра «Кастрычнік», калі змушана праглынуў язык у адказ на адкрытае хамства нейкага бамбізы ў расшпіленай моднай зімовай марынарцы.

Чарговы парыў ветру адчайна зашкуматаў ягоны доўгі тоненькі хвосцік на патыліцы. Ён нахіліў твар, каб схавацца ад снегу, што голкамі сёк па вачах. Зноў усярэдзіне накаціла пякучая крыўда.

Раптам… Ён ледзь паспеў спыніцца, каб не наляцець на двух стрыжаных у скуранках. Кожны з іх быў амаль удвая шырэйшы за яго. Некалькі імгненняў трывала паўза, толькі было чуваць, як вые завея…

— Табе што, педрыла, можа, дарогу саступіць? — здзекліва працадзіў вышэйшы бамбіза, што стаяў бліжэй.

Віяланчэль і кайстра адначасова выслізнулі з рук віяланчэліста. На яго з ўпэўненым спакойным нахабствам пазіралі празрыстыя халодныя вочы. Віяланчэліста нібы працяла токам.

— З Новым го-одам! — істэрычна выгукнуў віяланчэліст і… залудзіў вышэйшаму качку проста ў нос са смычковай рукі.

— З новым шча-а-а… — не паспеў з’едліва перакрывіць той і павольна, як у рапідзе, зваліўся ў сумёт.

Удар атрымаўся кароткі, шчыльны, з акцэнтам. Кроў аж пырснула з разбітага носа, імгненна тонкімі пісягамі расквеціўшы твар і снег чырвонымі ўзорамі, трапіўшы на руку й белы шалік віяланчэліста.

«Хвядос — чырвоны нос», — чамусьці прыгадаўся віяланчэлісту класік.

«Хвядос — чырвоны нос», — невядома чаму згадалася некалі чутая казка другому валютчыку, які застыў з вырачанымі вачыма й разяўленым ротам над сваім павержаным сябрам.

— Я віяланчэліст! — высокім сарваным фальцэтам выгукнуў віяланчэліст і, падхапіўшы свае рэчы, імкліва рушыў далей.

«Як у Тайсана, атрымалася», — сам сабе ўсхвалявана думаў віяланчэліст. Адрэналін калаціў сэрца так, што з яго нават выскачыла крыўда на русалку. Вецер змяніў напрамак, падзьмуў у спіну й данёс роспачна-здзіўленае: «Уй бля-я-я…»

2

На турботныя роспыты кампаніі пра кроў на шаліку віяланчэліст упэўнена запатрабаваў каньяку і гарбаты. Ён трымаўся з выглядам ветэрана Афганістана. «Харызма», — захоплена гледзячы на яго, шапацелі дзяўчаты. Час ад часу пазіраючы на сябе ў люстэрка, ён хмурыў бровы й напружваў цягліцы.

— А ці не пастрыгчыся мне пад бокс? — разважаў віяланчэліст. — Новы год трэба пачынаць без пазыкаў, па-новаму.

3

«Ну дзівосы дзіўныя, проста цуд навагодні… Віяланчэліст заваліў!.. Гы-гы-гы… — рагатала кампанія. — Слухай, як ты будзеш на валюце стаяць з такім носам, цябе ж ніводны патрульны мент не пазнае, забяруць, як залётнага».

Валютчыкі ўжо маханулі па сотцы. Галівудскі стандарт быў побач і мяняў лёд на параненым носе.

— Усё ок, трэба даравацць бліжняму, тым больш… віяланчэлісту, — смехам адбіваўся ад нападак пацярпелы. — Новы год трэба пачынаць без пазыкаў.

Яны кульнулі яшчэ па сто. Побач гудзеў «галівуд». «А ці не адгадаваць нам хвасты?» — гледзячы адно на аднаго, смяяліся валютчыкі.

4

На гадзінніку было ўжо без чвэрці дванаццаць, а «Тытанік» ніяк не ішоў на дно. На дзявочыя вочы напаўзала сляза. У халоднай вадзе Атлантыкі паміраў Ды Капрыё.

— Ведаеш, я развіталася са сваім віяланчэлістам, — робячы кароткія паўзы, павольна прагаварыла, папраўляючы доўгія цёмныя валасы, русалка.

— Слушна зрабіла. Я са сваім валютчыкам таксама. Новы год трэба пачынаць па-новаму, без пазыкаў, — адказала зграбная спраўная аспірантка з моднымі акулярамі на маленькім носе.

У суседнім пакоі звінела гітара, чуўся смех, пералівалася рознакаляровымі блікамі ялінка.

У прыадчыненыя дзверы прасунулася ўсмешлівая галава з барадой.

— Хадзем, цыпачкі, — прамовіла галава. — Зараз праб'е. Пара.

У тэлевізары, нарэшце памёр Ды Капрыё, агні «Тытаніка» схаваліся ў глыбінях мора. Стрэліла пырскамі шампанскае, і прыйшоў Новы год.

*1999*

# ЗМЕСТ

**Дашкевіч, А.**
Д11 З вышыні птушынага палёту : апавяданні / Алег Дашкевіч. — Мінск : Выдавец Раман Цымбераў, 2022. — 120 с.
ISBN 978-985-7303-15-1.

Апавяданні Алега Дашкевіча друкаваліся ў розных перыядычных выданнях Беларусі на працягу больш як дваццаці гадоў, але сабраныя разам у кнігу ўпершыню. Гэта своеасаблівыя замалёўкі-рэпартажы з мінулага і нашага стагоддзя (тысячагоддзя!), у якіх дакладна, сур’ёзна і з гумарам перададзены той час, падзеі і надзеі беларусаў, а праўдзівей — само нашае жыццё.

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 84(Беи)**

12+

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Дашкевіч** Алег

# З ВЫШЫНІ ПТУШЫНАГА ПАЛЁТУ
*Апавяданні*

Адказны за выпуск *Раман Цымбераў*
Рэдактар *Алена Укусік*
Вёрстка *Інгі Дарафеевай*
Карэктар *Алена Укусік*

Падпісана да друку 04.10.2022. Фармат 84×108 1/32.
Папера афсетная. Друк лічбавы. Ум. друк. арк. 6,3.
Ул.-выд. арк. 4,52. Наклад 99 ас. Зак. 401.

ІП Цымбераў Раман Міхайлавіч.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/530 ад 30.05.2018.
Пр-т Ракасоўскага, 85-47, 220085, Мінск.
Тэл. +37529755501, +375293368284.

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.